E-mail: nchas@promedia.by

# Новы Час

№ 11 (16) БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА ЖНІВЕНЬ 2003 ГОДА *ПАДПІСНЫ ІНДЭКС 63773* http://nchas.iatp.by

# Контр–адукацыя

Для навучэнцаў Нацыянальнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа 1 верасня – святочны Дзень Ведаў _ будзе ў гэтым годзе Днем горасных Ведаў пра жыццё, пра абыякавасць чыноўнікаў ад адукацыі, днём успамінаў пра будынак, з якога іх выгналі, пра класы, у якія іх не пускаюць, асэнсавання сваіх затаптаных праvоў вучыцца там, дзе ім хочацца, і на той мове, якую яны свядома абралі.

Абсурднасць нашага жыцця апошнія пяць-восем гадоў здзіўляла не толькі ўвесь свет, але з кожным годам пачынае закранаць і ўплываць на ўсё большую частку нашага беларускага грамадства. Усе больш-менш адукаваныя і проста разумныя людзі даўно задаюцца простым пытаннем: дзе тая мяжа цярплівасці, на подступах да якой грамадства скажа: «Досыць! Так жыць далей нельга!»

Менавіта такога роду думкі ўзнікаюць, калі задумваешся над сітуацыяй з Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэем. Неардынарнасць гэтай падзеі заключаецца перш за ўсё ў тым, што на ўрадавым узроўні прынята рашэнне аб закрыцці адзінага беларускамоўнага ліцэя ў Беларусі. Прычым, робіцца гэта настолькі жорстка і груба, з парушэннем усіх магчымых чалавечых законаў: права, законнасці, маралі і, нарэшце, проста справядлівасці, – што даешся дзіву, як гэта магчыма.

Грамадства, неаднаразова расколатае па пытанні адносін да звальнення метрабудаўнікоў, знікнення палітычных дзеячаў, знаходзячыся ў стане бясконцага падзення жыццёвага ўзроўню, у чарговы раз апынаецца перад маральным выбарам. Унутрана адчуваючы беззаконне, якое творыцца над самай безабароннай часткай – дзецьмі, усё ж многія дапускаюць у сваіх выказваннях подленькія, гадзенькія думкі: Дзяцей вучаць палітыцы! І заплюшчваюць вочы на тое, што апраўдваць парушэнне закона нельга нічым, ніякімі «высакароднымі» мэтамі (тым больш, што ў дадзеным выпадку пра гэта гаворка не ідзе! Няма ніякіх высакародных мэтаў у закрыцці ліцэя). І ў такім выпадку, нельга казаць аб прававой дзяржаве, хоць пра тое неаднаразова спрабуюць сцвярджаць на самым высокім урадавым узроўні Беларусі.

Пакуль што няма ілюзій, што грамадства здолее выстаяць у гэтай няпростай сітуацыі. І ўсё ж, дарогу і перашкоды адольвае той, хто ідзе і не спыняецца. Сёння кожны грамадзянін павінен вызначыцца, на чыім ён баку: безабаронных дзяцей ці на баку грубай сілы, якая хоча растаптаць душы гэтых дзяцей, іх бацькоў і заадно душы ўсіх тых, хто гэтую сілу падтрымлівае. Задача ж усіх грамадскіх арганізацый – знайсці спосабы, метады, формы, каб даць магчымасць кожнаму чалавеку праявіць салідарнасць з ліцэістамі, іх бацькамі, звольненымі выкладчыкамі. Варта было б усім нарэшце зразумець: калі мы не здолеем абараніць нашых дзяцей, мы не вартыя быць бацькамі і проста людзьмі. Бо любыя бацькі жывёльнага свету, нават не маючы інтэлекту, бо тое ёсць прывілея людзей, усё ж сваіх нашчадкаў берагуць і абараняюць. То на якім кожны з нас знаходзіцца месцы ў табліцы жывых істотаў свету?

Сітуацыю яшчэ не позна выправіць, дастаткова адмяніць прынятае рашэнне, матывуючы недахопам фінансавых сродкаў. Тым больш, што фактычна нічога не было яшчэ зроблена. Гэтым былі б прадэманстраваны сапраўдны дзяржаўны клопат. І ўсім было б відавочна, што хоць зрэдку, але ўсё ж клопат аб стабільнасці нашага грамадства праяўляецца на самым высокім узроўні.

**Алена АМЕЛЬЧЫЦ**




**Гэты здымак у пэўнай меры гістарычны – ён зроблены ў той нядаўні час, калі гэтыя шчаслівыя падлеткі і падумаць не маглі, што іхні ліцэй могуць лівідаваць – проста без усялякай прычыны загадаюць закрыць і паставяць міліцыю для аховы будынка ад іх. Такі здымак болей зрабіць немагчымы – ліцэя няма. Цяпер ліцэісты мусяць стаяць у пікетах, спадзяючыся абудзіць сумленне у тых контр-адукатараў з міністэрства адукацыі, якія здзейснілі вандальскую акцыю ліквідацыі. Працяг ліцэйскай тэмы на стар. 4–5**

# На першым месцы ў СНД

Сёння персанальным камп'ютэрам нікога не здзівіш – няма ўстановаў, прадпрыемстаў, фірмаў, прадпрымальнікаў, якія не карыстаюцца такой тэхнікай, мноства людзей, ад школьнікаў да пенсіянераў, атрымоўвае інфармацыю выключна праз інтэрнет. У краіне на 100 чалавек прыходзіцца 7,77 персанальных камп'ютэраў, але з гэтага ліку толькі 7, 39 працэнта падключаны да інтэрнета.

Такія даследаванні правёў Аб'яднаны інстытут праблем інфарматыкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, скарыстаўшы методыкі, распрацаваныя цэнтрам па міжнародным развіцці пры Гарвардскім універсітэце. Эксперты акрэслілі ступень электроннай падрыхтаванасці краіны да развіцця інфармацыйна-камунікацыйнай індустрыі. Вынікі даследавання засведчылі, што з кожных 100 жыхароў рэспублікі карыстаюцца інтэрнетам 9,07 працэнта, сярэдні месячны кошт 20-гадзіннага доступу ў глабальнае сеціва складае 21,45 даляра. У цэлым колькасць карыстальнікаў інтэрнета ў Беларусі ў 1998–2002 гадах узрасла ў 40 разоў. Было таксама ўстаноўлена, што 87 працэнтаў праграмнага забеспячэння, якое выкарыстоўваецца ў Беларусі, неліцэнзійнае.

У еўрапейскім рэйтынгу краінаў па тэмпах тэлефанізацыі Беларусь займае 32 месца з 44 і лідзіруе сярод краінаў СНД. Па выніках 2002 года па ўзроўню развіцця мабільнай тэлефоннай сувязі краіна знаходзіцца на апошнім месцы сярод еўрапейскіх краін. Колькасць абанентаў мабільнай тэлефоннай сувязі на 100 жыхароў Беларусі складае 4,54. Папярэднія вынікі гэтага даследавання Аб'яднанага інстытута праблем інфарматыкі былі скарыстаны пры падрыхтоўцы Дзяржаўнай праграмы інфарматызацыі на 2003–2005 гады і на перыяд да 2010 года «Электронная Беларусь – e-Belarus».

**С.Б.**

## Пісьменніку Уладзіміру Арлову – 50

*Высокашаноўны спадар Уладзімір!*
*Ад шчырага сэрца віншуем Вас з юбілеем. Дзякуючы Вашым таленавітым творам мноства людзей убачыла родную даўніну ў багацці асобаў і высокародных справаў продкаў.*
*Мы ўпэўнены, што ўсе чытачы Вам таксама ўдзячныя.*
*Зычым Вам шчаслівага веку, здароўя, удачы, творчага плёну і натхнення. Няхай Муза, з якой Вы шчыра сябруеце, як найдалей застаецца Вашай вернай пястомнай сяброўкай.*

*Рэдакцыя газеты Новы Час*

*Эсэ з новай кнігі пісьменніка чытайце на стар. 7–8*



**Шаноўныя чытачы!**

Рэдакцыя прабачаецца за нестабільны выхад газеты. Прычына палягае ў недахопе сродкаў. Газета цалкам залежыць ад колькасці чытачоў. Аднак чытацкая аўдыторыя беларускамоўнай газеты ва ўмовах ініцыяванага дзяржавай звужэння сферы ўжытку беларускай мовы не можа не змяншацца. Таму мы просім падпісчыкаў не крыўдаваць, што газета паступае не па графіку. Таксама мы просім пісаць у газету пра тое, што вас хвалюе, што хацелася б прачытаць і чаго ў газеце не хапае. Вы можаце падтрымаць газету праз размяшчэнне рэкламы, абвестак і праз ахвяраванні. Наш адрас: **220005, Мінск, вул Румянцава, 13, Мінская гарадская арганізацыя ТБМ.**

# Уганаруюць на ўскраінах

Неўзабаве ў Мінску з'явяцца вуліцы пайшоўшых сёлета з жыцця пісьменніка Васіля Быкава і музыкі Уладзіміра Мулявіна.

Адразу па смерці Быкава да мінскіх уладаў пайшлі заклікі пераназваць у гонар пісьменніка які-небудзь са сталічных праспектаў альбо вуліцу ў цэнтры горада. Памяць Быкава ўшануюць, але вуліца з ягоным імем будзе на ўскраіне Мінска – у раёнах новабудоўляў. Дзе канкрэтна – пакуль невядома. Хутчэй за ўсё вуліца Быкава з'явіцца напярэдадні 80-годдзя з дня ягонага нараджэння і адначасова да гадавіны смерці, якія будуць адзначацца ў чэрвені наступнага года.

Вуліца імя колішняга лідэра «Песняроў» Уладзіміра Мулявіна таксама з'явіцца ў новых мінскіх раёнах, хаця спачатку разглядаўся варыянт перайменавання вуліцы Бяды.

У камісіі па перайменаванні вуліц і плошчаў Мінска кажуць, што радыя б пераназваць імёнамі Быкава і Мулявіна ўжо старыя сталічныя вуліцы, у тым ліку ў цэнтры горада, з недарэчнымі ці немілагучнымі назвамі. Але спасылаюцца на рашэнне Мінгарвыканкама не пераназываць абжытыя вуліцы. Нібыта гэта было зроблена, каб не было лішняга галаўнога болю ды клопату ў грамадзян, якія на іх жывуць і якім прыйдзецца ў выпадку перайменавання іхняй вуліцы пераафармляць многія дакументы, пачынаючы ад пашпарта.

Аднак жа напачатку 1990-х гадоў, каб беларусізаваць горад, гэтага не збаяліся зрабіць, і ў Мінску з'явіліся вуліцы Гарадскі вал, Багдановіча ды іншыя. Карацей, уся справа ў жаданні, а яго няма. Нават станцыі метро «Плошча Незалежнасці» ўжо няма – «Плошча Леніна». Дэ жа вю.

**Мар'ян КАРЫМОНТ**

# Стадыёна не будзе

Усе памятаюць, як ў савецкія часы ўсталёўвалася практыка зносу могілак і «добраўпарадкавання» вызваленай тэрыторыі – на ёй вялося нават буданіцтва, у лепшым выпадку «вырастаў» сквер. Прыкладам могуць служыць Залаторскія, Нямецкія, Старажоўскія могілкі ў Мінску. Гэтая практыка знішчэння памяці пра продкаў на нейкі час была спыненая, але нядаўнія падзеі ў Гродна, калі на месцы знесеных старажытных габрэйскіх могілак, дзе былі пахаваныя 14 тысяч чалавек, пачалі будаваць стадыён, паказалі сілу ганебнай традыцыі. Акцыя гродзенскіх уладаў выклікала пратэсты, набыла міжнародную вядомасць і пагражала вырасці ў міжнародны скандал.

Цяпер канфліктная сітуацыя вырашана. Паміж уладамі Гродзенскай вобласці і прэзідэнтам Іўдзейскага рэлігійнага аб'яднання ў Беларусі (ІРАБ) падпісана пагадненне аб спыненні будаўніцтва стадыёна. Згодна з падпісаным пагадненнем, уся зямля, якая раней была вывезена будаўнікамі стадыёна ў кар'ер, будзе вернута на месца захаванняў, дзе ІРАБ мае намер паставіць памятны знак, паведаміў прэзідэнт ІРАБ Ю.Дорн. Тэрыторыя вакол спартыўнага стадыёна будзе мець спецыяльны статус, і любыя працы на ёй могуць праводзіцца толькі з дазволу ІРАБ, а добраўпарадкаванне тэрыторыі будзе праводзіцца без парушэнняў грунту. Таксама Гродзенскі гістарычны архіў перадасць усе архіўныя дакументы, што датычаць захаванняў на старажытных могілках, ІРАБу.

**Пятро КЛІМКОВІЧ**

# Мутанты білінгвізму

***Кажуць, мова – душа народу. Што ж, добрай раніцы, двудушная нацыя.***

Сымбалічна, што Беларускі народны фронт стаў вядомым у тым ліку й пасьля Чарнобыля, ягоным розгаласам, ягоным рэхам. Насамрэч, калі задумацца, сёньняшнія беларусы – постчарнобыльскія мутанты, якія сьвецяцца сьвядомасьцю, нібы радыяцыяй. У нас дзьве мовы, дзьве душы (чытай Мрыя) – і дзьве галавы. Другая – прыкмета сталеньня, яна вырастае, калі ў першай не зьмяшчаюцца ўсе думкі, калі яны пярэчаць адна адной. Часам, новую галаву можна зьбіць ударам міліцэйскай дубінкі. Часам, ад гэтага ўдару яна й вырастае.

Чаму я так упэўнена пра гэта пішу? Бо й сама – дзьвюхгаловая. Адна мая галава – беларуская – падстаўленая вятрам і непагадзі. Другая – расейская – клапатліва схаваная пад каўнерам, я хацела б яе пазбыцца, ды яна міжволі вытыркаецца, каб залагодзіць абяздушанае (абязмоўленае?) чынавенства, каб ня выказаць свайго звыродства далёкім ва ўсіх сэнсах сваякам, каб наладзіць стасункі з чужагаловымі іншаземцамі. Адна галава добра, а дзьве... лепш?

Прывыкай, прывыкай да ўродства мая ўродачка... (АСыс)

Я й звыклася. Штодня, гарбатая (то ж бо горб – мая недаразьвітая расейская галоўка), выходжу на вулкі мае краіны, а горб зрэдчасу варушыцца, а тое й загаворыць «чалавечаскім голасам». Я ўсё прыглядаюся, ці ня стрэну гэткага як я, роднénькага, гарбатага. Ужо ж мы зь ім пагамонім. Людзі на мяне азіраюцца – як на хворую, на ўродачку. Як жа ты, дзіцятка, галаву сабе не адрэжаш пачварную. Мы ж адрэзалі – і нічога, гарбамі перамаўляемся.

Не, мы, жыхары Вялікага Княства Тутэйшага, нашым звыродствам пахвалімся. Хай паважаюць у сьвеце – сьвет вычварэнцаў шкадуе. Мы ж унікальныя: ад нараджэньня – білінгвы. Адна галава – гарадская, дыхае смогам, жарэ марозіва, глядзіць НТБ, блукае ў сеціве-іншасьвеціве. Другая галава – аўтэнтычная, на бабульчынай бульбе ўзгадаваная, дыхае перагноем два месяцы на год, глядзіць кароўкі на пастве, ходзіць на паседжаньні ТБМ. Так і разрываюць дзьве галавы – дзьве душы – адну шыю між двух сьветаў. У часы Мрыя пахутвалі, а цяпер – прыцярпеліся.

Жывуць нашы галовы на розных паверхах прасторы: паміж вёскай і горадам – у каляіне; між атэізмам і паганствам – бяз храму; між крытычным рэалізмам і бумбамлітам – непісьменныя. Між поўначчу й поўднем – у вечным беларуска-народным атмасьферным фроньце. Між усходам і захадам – у зеніце, на Зорным Шляху продкаў, бо п'яныя скаціліся з Зорнага Вазочка й ня можам узгадаць, зь Вялікага ці з Малога. Між вадой і сушай – на балоце, між днём і ноччу – у зьмярканьні, між сацыялізмам і рынкам – у натуральнай гаспадарцы. Балансуючы між зямлёй ды небам, на вышэйшай кропцы Бабілонскай вежы: адзін крок – або ў бруд, або на арбіту. На чырвонай крывавай стужцы, што праткала белую аснову. На хуткаснай шашы, абапал якой – крыжы Курапатаў. Мабыць, і пасьля жыцьця, патрапіўшы на нябёсы, беларус здолее ўжыцца на паўдарозе зь пекла да Эдэму, падстаўляючы вагню й прахалодзе то правую шчаку, то левую, – не заўважаны ані бесамі, ані анёлкамі.

А можа, мутаваць далей? Схаваўшы абедзьве славянскія галавы пад каўнерам (рыхтык гарбы з ашчаджанай жыцьцёвай мудрасьцю), вывучыць новую мову, пажадана, ангельскую, пажадана, як родную. Каб у салодкай эміграцыі крочыць гэткім гарбатым грамадзянінам сьвету (бамжом – бяз пэўнага месца радзімы) або трохгаловым цмокам – гігантам лінгвістыкі; толькі на каго там выдыхаць полымя?..

Журналіст радыё «Свабода» даў вялікі артыкул у «НН» пра сына, які ходзіць у расейскі садочак. Маўляў, няма чаго ствараць рэзэрвацыю для беларусаў, хай дзіцятка засвойвае расейскую мову, хай гадуе другую галоўку (адну для сям'і, другую для сьвету). Ёсьць чым хваліцца. Ды сёе-тое не дагаварыў «свабодны» журналіст. Пра тое, як колькі гадоў таму ў цэнтры Менску стварaўся беларускі садочак, як складаліся сьпісы малечы (з паўсотню прозьвішчаў, ды – ах якіх! – імёнаў), як падаваліся тыя сьпісы ў РАНА... як ледзь ня быў расфармаваны той садок, не, не праз злосных чыноўнікаў-русыфікатараў, а праз бацькоў (ах якіх беларускіх!), якія ў верасьні не прывялі дзяцей у групкі. Ня буду нікога абвінавачваць. Аднаму трэба праехаць ажно тры прыпынкі на трамваі, у другога часта ламаецца машына, у трэцяга дзьвюхгаловая жонка (а якая цешча!), у чацьвёртага часта хварэе дзіця (мабыць, спадчынная алергія на беларускую мову, бо малое пайшло ў бліжэйшы расейскі садок і, натуралёва, меней хварэць ня стала). Садок БЫЎ СТВОРАНЫ. Дзякуй трэба сказаць тым расейскамоўным бацькам, якія вырашылі ўзгадаваць дзіцяці другую – беларускую! – галаву. Адна галава добра, а дзьве – лепш?.. Ці бываюць станоўчыя мутацыі? Так. Але надзвычай рэдка, і Чарнобыль – ня той выпадак.

Мне згадваецца гісторыя ўсё з таго ж беларускага садка. Чатырохгадовая Барбарка распавяла, што яны з аднагодкам Уладакам, падчас дзённага шпацыру, будавалі зь лісьця КАСЬЦЁЛ. Мне сьцяла дыханьне. Які вобраз! Гонкі, карункавы касьцёл з восеньскай лістоты!.. Потым я ўзгадала, праз хвілю, і ў разуменьні разгубілася. Уладак гадуецца ў расейскамоўнай сям'і, а ў дадатак – не вымаўляе «Р». Так, ён прапанаваў «рабіць касьцёр», «вогнішча», Барбара ж стала ўзводзіць храм... Памылка нарадзіла вобраз. Ня хочацца казаць пра перавагі адной мовы над другой, пра складаныя дзіцячыя асацыяцыі, пра адрозьненьні ў сьветаўспрыманьні хлопчыкаў і дзяўчынак, пра ўрачыстае шэсьце білінгвізму па нашай краіне. Дзеці гулялі, дзеці цудоўна гулялі разам, так і ня ведаючы, што НЕ ПАРАЗУМЕЛІСЯ.

Білінгвізм - гэта мутацыя, гэта дыягназ, для кагосьці – нагода для гонару, для мяне – келіх ганьбы. Я хачу мець адну радзіму, адзін, атрыманы ў спадчыну ад бацькоў дом, адну родную мову (хаця й валодаць замежнымі). Але я жыву ў гэтай краіне сёньня. І калі я чую ўхвальную оду білінгвізму, я цярплю (так, цярплю!), я стрымліваюся. Я заплюшчваю вочы на абедзьвюх сваіх галоўках. І бачу касьцёл з восеньскага лісьця –

АХОПЛЕНЫ ПОЛЫМЕМ.

**Крысьціна КУРЧАНКОВА**

# Конкурс «Руплiўцы Беларушчыны»

Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны запрашае вучняў 9-11 класаў школ, гімназій, ліцэяў, студэнтаў ВНУ і навучэнцаў сярэдніх спецыяльных установаў да ўдзелу ў конкурсе на лепшы мастацкі ці публіцыстычны твор (эсэ, артыкул, верш, апавяданне), прысвечаны:

**165-ым угодкам з дня народзінаў Кастуся Каліноўскага;**

**140-ым угодкам паўстання 1863 года;**

**120-ым угодкам з дня народзінаў Язэпа Лёсіка;**

**110-ым угодкам з дня народзінаў Максіма Гарэцкага;**

**100-ым угодкам з дня народзінаў Наталлі Арсенневай.**

Працы (1-3 старонкі друкаванага тэксту памерам А-4) выслаць да 15 верасня на адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13, Таварыства беларускай мовы імя Ф.Скарыны. На асобным лісце пазначце інфармацыю пра сябе: імя, прозвішча, месца вучобы, клас (курс), факультэт, група, адрас, тэлефон, сябрамі якіх грамадскіх арганізацый Вы з`уляецеся, ваш удзел у краязнаўчай рабоце.

**Пераможцаў чакаюць прызы: магнітафон, кніга Ул.Арлова «Краіна Беларусь», відэа-, аўдыёкасеты, кнігі ды інш.**

**Сакратарыят ТБМ**

# Сядзіба ТБМ запрашае

Пачынаючы з чэрвеня ТБМ аднавіла пасяджэнні гістарычнага семінара для моладзі Мінска

З цікавымі выступленнямі і паведамленнямі аб мінулым і сучасным нашай сталіцы выступаюць вядомыя беларускія пісьменнікі і гісторыкі. Сярод іх Уладзімір Арлоў, Кастусь Тарасаў, Вольга Іпатава, Віталь Скалабан, Анатоль Грыцкевіч.

**Чарговыя сустрэчы адбудуцца**

**26 і 28 жніўня ў 18 гадзін у сядзібе ТБМ па адрасе:**

**Мінск, вул. Румянцава, 13**

**Перад прысутнымі выступіць Уладзімір Арлоў, які распавядзе пра гістарычныя ваколіцы Мінска і прэзентуе свае новыя кнігі «Ордэн белай мышы» і «Адкусі галаву вароне». Жадаючыя змогуць атрымаць кнігі з аўтографам пісьменніка. Запрашаюцца абітурыенты, студэнты і аспіранты з Мінска і бліжэйшых гістарычных ваколіц.**

# Славянскія фантазіі

***Аўтар новага падручніка «История Беларуси» дацэнт магілёўскага універсітэта, кафедры ўсходнеславянскай і расійскай гісторыі Якаў Трашчанок – чалавек, хоць якіх-небудзь гістарычных даследанняў якога ў бібліятэках не адшукаць. Але менавіта яму даверылі напісанне новага падручніка для студэнтаў па гісторыі Беларусі***

Бліскучая вокладка, пах нованадрукаваных старонак, тэкст, разбіты на параграфы, падобна бюракратычнаму дакументу, і змест савецкага падручніка сталінскай эпохі для сённяшніх студэнтаў. Шырокая публіка наўрад ці ў адначассе заўважыць, што гісторыю перапісалі, памяняўшы вывераныя пастулаты на супрацьлеглыя.

Прапануем чытачам самім зрабіць высновы на падставе некаторых выняткаў. Кніга, як для падручніка, невялічкая - таўшчынёй з «Буквар». Таму гісторыя выкладаецца тэзісна, гэтак сказаць, канцэптуальна. Рэцэнзентамі выступілі в. а. дырэктара Інстытута гісторыі НАН РБ доктар гістарычных навук, прафесар М.Сташкевіч і прадстаўнік універсітэцкай навукі доктар гістарычных навук, прафесар Э. Загарульскі Выданне ўхвалена Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у якасці вучэбнага дапаможніка для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў. Выдана кніга Магілёўскім дзяржаўным універсітэтам імя. Аркадзя Куляшова накладам 5 тысяч асобнікаў.

**Стар. 10**. Поэтому даже в периоды многократных войн, когда русские войска вступали в пределы ВКЛ и Речи Посполитой, они всегда встречались народными массами как освободители, получали всестороннюю поддержку и содействие. В то же время в России находили убежище массы беглецов из Беларуси и Украины, которые совместно с великорусами осваивали бескрайние просторы на Востоке страны.

**Стар. 13.** И мы должны знать - только в братском единстве «со всей Русью» белорусский народ видел залог своего счастливого будущего, за это боролся и страдал, это воспевал в песнях, поэтизировал в легендах.

**Стар. 148** В сознании белорусов продолжает жить чувство восточнославянской «русской» общности.

**Стар. 152.** ...Объективная история только подтверждает этнокультурное единство восточного славянства, не отрицая при этом национальной оригинальности, самобытности его отдельных частей. Трудами сторонников «западнорусского» направления были заложены основы научной белорусской историографии, филологии, этнографии и фольклористики.

В отличие от этих достижений, дилетантские, научно беспомощные «труды» национал экстремистов лишь продолжали пропагандистскую традицию польско-шляхецкой публицистики. Их концепции представляли из себя набор антиросийских и антиправославных мифологем, безмерно идеализирующих литовско-польскую старину и всемерно принижающих и очерняющих Россию, как носительницу «азиатского деспотизма» и бескультурья, якобы главного исторического врага Беларуси. Впервые этот набор мифологем был систематически изложен В.Ластовским в «Кароткай гісторыі Беларусі».

**Стар. 148.** Русский язык объективно выступал в роли модельного языка по отношению к молодому белорусскому. Именно на него в первую очередь вольно или невольно ориентировались новые белорусские писатели.

**Стар. 44.** ...Великое княжество не следуе идеализировать. Его ни в коем случае нельзя трактовать как «белорусскую державу» (версия национал-экстремистов), или даже как русско-литовское госсударство (по версии российской дореволюционной историографии). Это было государство литовских феодалов, первоначально допускавшее на правах неполноправной федерации элементы белорусской государсвенности. И не более. Это была Литва в симбиозе с подвластными ей русскими землями.

**Стар. 70.** «Литвины» так и остались вечным меньшинством на белорусской земле. В этом их заблуждение и их трагедия. ... Они никогда не ощущали себя слугами народа, всегда претендовали на роль господ над ним, в крайнем случае, на роль доверенных приказчиков при господах чужеземных. Так же ведут себя и их современные наследники. Они готовы принудительно «осчастливить» якобы не понимающий своих интересов народ. Националистически ориентированная интеллигенция мечтает о моноэтнической, монокультурной и моноязыковой Беларуси.

**Стар. 71.** Существуют судьбоносные, спасительные события. Для Беларуси таким событием стала миссия Русской православной церкви. Мать любого из нас - не идеальная женщина, но она - подарившая нам жизнь Мать, и в этом качестве её ценность для нас абсолютна. Православная церковь - мать белорусской нации. Если бы она была уничтожена, на этой земле не было бы белорусов. Это должен знать и помнить каждый белорус, независимо от его индивидуального отношения к религии и современной церкви. Это одна из абсолютных истин белорусской истории.

**Стар. 51.** Многочисленные отряды шляхты в кунтушах, которые из поколения в поколение за талеры, луидоры, рубли и флорины срывали планы королевской власти, писали пасквили, плели интриги, распространяли клеветнические стишки, драли глотки на шляхетских собраниях.

...Та необыкновенная легкость, с которой нынешние оппозиционеры из граждан превращаются в ищущих покровительство клиентов, так же объясняется этой дурной наследственностью. Белорусская же шляхта, как сословие совершила двойное предательство: сначала предала свой народ, что бы слиться с польской шляхтой, а затем вкупе с ней предала Польшу. Впоследствии наследники этих традиций, «земляччки» типа Ф.Булгарина, К.Собиньской и компании столь же легко предавали Россию.

**Стар. 132.** С этим эпизодом связан еще один миф - о первой белорусской газете Мужыцкая праўда». Так характеризуют серию нумерованных прокломаций-листовок, набранных польской латинкой на местном гродненском белорусском диалекте на одной стороне восьмушки листа бмаги, объединенных общим заголовком «мужыцкая праўда» и общей подписью «Яська, заспадр з-пад Вільні». ... Все это были типичные серии прокламаций, не имевшие признаков, характеризующих газету как сложносоставное периодическое издание.

**Стар.133.** С мифом о «белорусском характере» восстания связана мифологизация некоторых его руководителей на территорииЛитвы и Беларуси, в частности фигуры Викентия Калиновского. Миф переименовал его в «Кастуся», хотя в действительности своим вторым именем «Константин» Калиновский не пользовался... Никаких объективных оснований превращать В.Калиновского в «национального героя белорусского народа» не существует. Это типичный национал-экстремистский миф.

**Стар. 154.** Однако ведущая в «западнорусской» науке православная белорусская идея также оказалась подавленной богоборческой советской властью. Она была заклеймена как «национально-нигилистическая» и надолго вытеснена из белорусской историографии. Пришла пора ее вернуть и продолжить.

Трэба думаць, што кніга і з'яўляецца пэўным укладам у справу «возвращения и продолжения» праваслаўнай беларускай ідэі. Калі ўлічыць, што на Беларусі праваслаўная царква існуе як экзарзат Рускай праваслаўнай царквы Маскоўскага патрыярхата, то накірунак вяртання не выклікае загадак.

Цытаваць з кнігі «арыгільныя думкі» аўтара можна бясконца. Фактаграфічная матэрыяла ў «падручніку» амаль няма. Кніга ўяўляе па сутнасці збор публіцыстычных артыкулаў, прыдатных для публікацыі ў расійскіх славянафільскіх газетах. Можна толькі дзівіцца, што два дактары навук палічылі гэтае сачыненне вартым вывучэння студэнтамі. Зразумела, што аўтар, як і кожны чалавек, можа трымацца якіх заўгодна поглядаў на гісторыю краіны, нават выказваць іх на сваіх лекцыях студэнтам. Аднак Міністэрства адукацыі выдае грыф падручніка далёка не кожнаму твору па гістарычныя сюжэты. Можна толькі пашкадаваць тых магілёўскіх студэнтаў, якім прыдзецца вучыцца па гэтай кнізе, запамінаць далёкія ад гістарычнай праўды тээы. Лёгка зразумець, чаму на гэты «падручнік» не адгукаюцца аўтарытэтныя гісторыкі: фантазіі не аспрэчваюцца, гэта сфера індывідуальнай творчасці і асабістага жыцця

**Ядвіга МАЦКЕВІЧ**


Я.Н. Трещенок
ИСТОРИЯ БЕЛАРУСИ
Досоветский период
Часть 1

# Рублёвыя мроі

11 жніўня прэзідэнт Уладзімір Пуцін выказаўся пра неабходнасць у самы бліжэйшы час вызначыцца з пераходам Беларусі на расійскія грошы («ультыматум Пуціна»), і таму пытанне «адзінай валюты» склала галоўную інтрыгу жніўня.

Пакуль што Беларусь на гэты ультыматум ясна не адказала. Звесткі, які трапляюць да публікі, супярэчлівыя: расійскія СМІ пішуць, што справа вырашана і зараз удакладняюцца нязначныя механізмы рэалізацыі, у беларускіх СМІ пазіцыя беларускіх улад застаецца невядомая. На думку расійскіх палітыкаў, страта Беларуссю свае валюты дае ёй эканамічныя выгады. Пасол Расіі ў Беларусі Аляксандр Блахін не згодны з меркаваннем, што Беларусь страчвае свой суверэнітэт, пагаджаючыся на ўвядзенне расійскага рубля. Ацэньваючы карысць, якую дае Беларусі пераход на расійскія грошы, А.Блахін назваў у першую чаргу «аднамаментную карысць». *«Калі з 1 студзеня 2005 года ў Беларусі ўводзіцца як адзіны плацёжны сродак расійскі рубель, рэспубліка атрымае кампенсацыю па ПДВ за два папярэдзія гады. Гэта адразу сума парадка 300 мільёнаў даляраў. Апроч таго, па гэтай дамове Расія кампенсуе беларускаму боку тыя страты, што выкліканы адсутнасцю права эмісіі наяўных грошай – гэта яшчэ прыкладна 150 мільёнаў даляраў. Такім чынам, паўмільярда даляраў у бюджэт Беларусі падае як с куста»*, – аптымістычна зазначыў пасол. (Да месца заўважыць, што названая паслом сума «выгады» – мізерная. Гэта – кошт авіяпарка з 20 Боінгаў. У свеце яшчэ не было дзяржавы, якая б так ацэньвала страту сваёй нацыянальнай валюты.)




Адразу абмяркоўваецца і працэдура пазбаўлення ад расійскіх рублёў у выпадку скасавання дамовы. Мінск плануе проста прадаць рублі Цэнтрабанку. Пра асноўныя прынцыпы вываду рублёвай грашовай масы, якая яшчэ ў Беларусі не з'явілася, Масква і Мінск дамовіліся на пасяджанні сумеснай рабочай групы з удзелам старшыняў праўленняў Цэнтрабанка Расіі і Нацбанка Беларусі і міністраў фінансаў абедзвюх краінаў. У выпадку адмовы дзвюх краін ад выкарыстання адзінай валюты жыхары Беларусі на працягу года змогуць абмяняць наяўныя грошы на тую валюту, якую ўлады Беларусі прапануюць у якасці нацыянальнай. Акумуляваныя ж у Нацыянальным банку расійскія рублі будуць прададзены ім Дзяржбанку Расіі па намінальным кошце з залічэннем атрыманых сродкаў на карэспандэнцкі рахунак Нацбанка. Сродкі, што будуць паступаць на гэты рахунак, будуць скарыстаны, у прыватнасці, для пагашэння выданых Цэнтрабанкам крэдытаў. Аднак, калі гэтыя крэдыты не будуць пагашаны на працягу шасці месяцаў, то яны будуць прылічаны да дзяржаўнага знешняга доўгу. І будуць пагашацца на працягу трох гадоў з налічэннем працэнтаў.

«Развесцыя» ж Беларусь і Расія ў будучыні змогуць ці па ўзаемнай дамоўленасці, ці праз паўгода пасля пісьмовага звароту аднаго з бакоў. Яшчэ адна падстава скасавання валютнага саюза – калі аб'ём сродкаў на карэспандэнцкім рахунку Нацбанка ў Дзяржбанку Расіі на працягу шасці месяцаў будзе недастатковым для забеспячэння разлікаў паміж крэдытнымі арганізацыямі Беларусі і Расіі.

Размовы пра пераход Расіі і Беларусі на адзіную валюту гучаць ужо некалькі гадоў Галоўнай перашкодай на гэтым шляху было абвешчана пытанне аб эмісійным цэнтры. Адсутнасць паразумення прывяла да таго, што нават безнаяўны расійскі рубель у Беларусі не быў дазволены. Прэзідэнт Лукашэнка патлумачыў: «Дамовіліся, што мы даём права на карыстанне свабодным безнаяўным рублём у сябе, а Расія – нашаму беларускаму. Я ініцыятар гэтага ўказа, я яго падпішу, бо нашым прадпрыемствам гэта карысна. Расія пакуль што на гэта не ідзе».

Цяпер падобна тое, што дамовіца ўсё ж удалося. Аднак, як вынікае з нядаўняй заявы першага намесніка старшыні Цэнтрабанка Расіі, кантроль Беларусі над безнаяўнай эмісіяй будзе абмежаваны. Адзіным органам, які будзе акрэсліваць ліміты эмісіі як для Беларусі, гэтак і для Расіі, стане савет дырэктараў Цэнтрабанка, куды будзе ўведзены прадстаўнік Нацбанка Беларусі. Ён зможа выказвацца, рабіць прапановы, але прымаць рашэнні будзе савет дырэктараў Цэнтрабанка Расіі.

Праца над пагадненнем пра пераход Беларусі на рубель павінна быць завершана да 25 жніўня. Пасля ацэнкі экспертаў пагадненне змогуць ухваліць прэзідэнты. Ці не ўхваліць. І тут шмат што залежыць ад разумення ўладамі Беларусі зместу суверэнітэту беларускай дзяржавы. Верасень блізка, жнівеньская інтрыга блізкая да развязкі.

**Па матэрыялах прэсы**

# Ліквідацыя ліцэя –

## З ліцэйскіх фотааналаў










## Няма глузду

Закрыццё ліцэя, здзейсненае Міністэрствам адукацыі, не павінна здзіўляць. Было б больш дзіўна, каб яго не закрылі, бо гэта б пярэчыла традыцыі задушэння беларускамоўнай школы. Варта ўзгадаць, што беларускую школу выкаранялі ўсе ўлады – і пры цары, і пры саветах, і палякі, і пасля вайны, і ў час будаўніцтва камунізму. Колькі іх было беларускіх гімназій і школ створана пасля 1917 года. Ніводная доўга не пражыла. У Заходняй Беларусі пры польскім панаванні былі зачынены беларускія гімназіі ў Будславе, Клецку, Навагрудку, Нясвіжы Радашковічах. Віленская беларуская гімназія неяк трымалася, але яе апошнім годам стаў 1944. Беларускія школы ў Мінску загаслі ў пасляваенны час, калі ствралася новая чалавечая агульнасць – «савецкі народ». Пра гэта тысячы разоў пісалі, усе гэта ведаюць, усе разумеюць, што выкараненне мовы жывога народа – злачынства перад сусветнай культурай, і тым не менш нічога не мяняецца.

Улада, якая штодня гаворыць пра нацыянальную ідэю, суверэнітэт, беларускую дзяржаву, паводзіць сябе як іншамоўны захопнік, руйнуючы менавіта ўсё тое галоўнае, што нацыянальную ідэю, дзяржаву і суверэнітэт забяспечвае гістарычным і жыццёвым зместам.

Закрыццё ліцэя прадэманстравала ўсяму грамадству, што цяперашняя ўлада вырашыла пытанне з існаваннем беларускай мовы канчаткова. Бо ліцэй заставаўся адзінай навучальнай установай, дзе навучанне вялося па-беларуску. Другой беларускамоўнай сярэдняй школы ў нас нідзе няма. Можна сказаць, што ў рэспубліцы паўсюдна ўведзена рускамоўная адукацыя з невялікім курсам вывучэння мовы абарыгенаў.

Аднак на працягу стагоддзяў склалася і традыцыя змагання за мову, павагі да яе. Шмат людзей заплацілі за вернасць мове жыццём, пакутвалі за яе, немагчыма забыцца на іхныя высілкі жыць годна і з самапавагай. Таму цынічная акцыя Міністэрства адукацыі выклікае шырокае абурэнне. Нельга адной рукой атрымоўваць заробак дзяржаўнага службоўцы, а другой руйнаваць аснову народа. Як ні глядзі, а гэта вылілася ў забарону вучыцца на роднай мове – што гэта як не трыумф каланіяльнай палітыкі. Можна не глядзець БТ – гэтую блёклую рускамоўную копію расійскіх тэлеканалаў, можна не ўключаць радыё, бо яно амальне мае беларускіх перадачаў. Але дзеці не могуць не хадзіць у школу. А ў школе іх рыхтуюць да існавання ў якасці расійскіх грамадзянаў. Хто з гэтым пагодзіцца? Наўмысна ствараючы напружанасць у грамадстве, улада сама наносіць шкоду нацыянальнай бяспецы і пашырае кола непрыязных да такой палітыкі гвалту над нацыянальнай культурай і пачуццём асабістай годнасці людзей.

Я думаю, цяпер пабольшае людзей, якія пачнуць гаварыць і пісаць па-беларуску проста таму, каб не чуцца прыніжанымі.

**Вера САВЕНОК**

# праява лінгвацыду



## Каму яны заміналі?

Хмары над Нацыянальным дзяржаўным гуманітарным ліцэем імя Якуба Коласа пачалі збірацца яшчэ гадоў пяць таму. Тады будынак ліцэя хацеў прыбраць у сваю «гаспадарку» сумна вядомы Іван Ціцянкоў. Але бацькі, выкладчыкі і вучні адстаялі навучальную ўстанову.

Навучэнцы Нацыянальнага ліцэя ўпэўнена паступалі на самыя прэстыжныя спецыяльнасці у айчынных ВНУ, вытрымліваючы строгія ўступныя іспыты. Гэтыя ж навучэнцы ўдзельнічалі ў міжнародных алімпіядах і там здабывалі першыя ды прызавыя месцы. Здавалася б, гэта павінна выклікаць павагу да ліцэя і ліцэістаў.

Аднак некаму гэтыя ліцэісты з іх добрай адукацыяй, аднолькава бліскучым валоданнем беларускай і англійскай мовамі сталі як костка ў горле. Што тут асабліва дзівіцца? У нашай беларускай краіне, калі ты думаеш і гаворыш па-беларуску, то нехта на цябе глядзіць як на дзівака, а чынавенства – як на нядобранадзейнага.



Пачынаючы з 25 чэрвеня, калі Савет Міністраў выдаў Пастанову аб ліквідацыі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя, навучэнцы, бацькі і выкладчыкі кожны дзень збіраюцца каля сваёй вучэльні. Пакуль дзеці малююць плакаты, стаяць у пікетах, дарослыя ходзяць па чыноўніцкіх кабінетах у надзеі знайсці паразуменне ці хоць прыйсці да нейкага кампрамісу. Але пакуль безвынікова. Чыноўнікі прапаноўваюць дзецям ісці вучыцца ў Мінскі гарадскі гуманітарны ліцэй (які яшчэ не адкрыты, не мае штатаў, памяшкання, статута, і невядома, ці будзе ён беларускім) ці ў іншыя школы. Выкладчыкам таксама прапануюць «працаўладкавацца». Але ліцэісты хочуць вучыцца ў сваіх выкладчыкаў і ў той атмасферы, да якой яны прызвычаіліся.

Да 1 верасня павінна скончыць працу ліквідацыйная камісія ліцэя. Выкладчыкі спрабуюць праз суд адстаяць сваю ўстанову і падалі адпаведны іск у суд Ленінскага раёна Мінска. Але да пачатку навучальнага года разгляд справы не адбудзецца. Таму ўжо зараз дарослыя думаюць над тым, як зарэгістраваць новую навучальную ўстанову, зразумела, ужо прыватную, каб дзеці маглі атрымаць адукацыю і атэстаты. Самі ж ліцэісты пакуль што мала думаюць пра фармальнасці, а выказваюць гатоўнасць вучыцца нават у «лясной школе». І вельмі можа быць, што так і станецца.

Немагчыма зразумець, чым заміналі чыноўнікам добра адукаваныя вучні, чые папярэднікі паступалі ў айчынныя і замежныя вышэйшыя навучальныя ўстановы. Зазначым, што ў ліцэі навучалася каля 150 чалавек. На сённяшні дзень 104 навучэнцы і іх бацькі выказалі цвёрды намер працягваць вучобу толькі ў Нацыянальным ліцэі. Такім чынам, Міністэрства адукацыі за час летніх вакацыяў выхавала сапраўдных апазіцыянераў – лікам 104. І гэта не выпадковыя «грантасосы» ад апазіцыі, а дзеці, у якіх адабралі права вучыцца ў сваім ліцэі. Чыноўнікі, мусіць, забылі, што самыя балючыя крыўды дзіцячыя. Вось такая педагогіка.

**Яніна ЛЮТКОВІЧ**

## «Табе, ліцэй, ад усяго сэрца !..»




Зусім нядаўна, выступаючы супраць закрыцця Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа, навучэнцы правялі серыю вулічных акцыяў пад умоўнай назвай "Я люблю ліцэй". Тады гэты слоган быў выбраны адмыслова, каб не ўтрымліваў агітацыйнай інфармацыі і не ператвараў акцыю ў недазволены пікет. І сапраўды, амаль усе акцыі з удзелам не менш за 100 чалавек прайшлі мірна, не даючы міліцыі падставаў да разгону.

Але ж не ўсе ведаюць, што слоган быў выбраны невыпадкова і выкарыстоўваецца неўпершыню. Ён за час існавання самага ліцэя стаў сповклічам усіх ліцэістаў і выкладчыкаў, як кажуць навучэнцы, стаў сповклічам перамогі і натхнення. Словы «Я люблю ліцэй» заўжды можна было пачуць на выпускных вечарынах, у цывільных размовах, на ўрачыстасцях і імпрэзах. Цяпер яны сталі гучаць яшчэ актуальней, калі спрабуюць адкрыта знішчыць, зруйнаваць унікальную беларускую ўстанову. Але, нягледзячы на гэта, ніхто з ліцэістаў ці выкладчыкаў не скажа: «Ліцэй знішчаны», «Былы ліцэй», яны скажуць: «Барацьба не скончана. Не ўсё згублена».

На жаль, у Міністэрстве адукацыі не разумеюць і не хочуць зразумець, што яны робяць. Вядома, яны ўсведамляюць, якое значэнне мае ліцэй для Беларусі і якія дзеці ў ім навучаюцца, і баяцца іх. А гэта навучэнцы, не здольныя да пакорлівасці і да аднастайнасці, дзеці, якія ведаюць, што сваёй працай і сваім розумам яны здолеюць змяніць гэту краіну і павесці па правільным шляху. У ліцэі працуюць і вучацца людзі, пазбаўленыя «саўку», да ўзроўню якіх некаторым чыноўнікам трэба яшчэ доўга і доўга цягнуцца.

Ніхто не паспрачаецца ўзроўнем з ліцэйскім тэатрам, нароўні не стане ведамі ў геаграфіі і многіх іншых дысцыплінах, не будзе сумнявацца ў агульных чалавечых якасцях ліцэістаў, выхаваных інтэлігентнымі і вядомымі людзьмі. Зараз ліцэісты асвоілі і музычную сферу, прафесійна запісаўшы і выдаўшы свае творы і напрацоўкі. Дзякуючы іх намаганням і ўпартасці, за многія месяцы яны назбіралі шэраг матэрыялаў пра ліцэй, арыгінальных тэкстаў, звестак, дадзеных. Назбіралі фотаархіў, адшукалі надзвычай цікавыя відэаздымкі. Ніхто з іх нават не думаў, што ўжо праз некалькі месяцаў «нейкія там» людзі паспрабуюць гэта ўсё знішчыць, зліквідаваць ліцэй. Але навучэнцы пераканаліся, што зліквідаваць ліцэй немагчыма, як немагчыма знішчыць і схаваць інфармацыю на 20 тамоў энцыклапедыі. Бо ліцэй за адносна невялікі час існавання пакінуў за сабою столькі цікавага, што не змесціш не тое, каб на адзін кампакт-дыск, але на цэлую CD-тэку. Ліцэісты ж, нібы прадчуваючы небяспеку для ліцэя, пачалі гэтую справу, якой пара б было заняцца даўно.

Спрабуючы ўціснуць на адну невялікую кружэлку найбольш інфармацыі, дзеці запісалі туды ўсяго пакрышку. На дыску можна знайсці тэксты пра адкрыццё, дасягненні, гісторыю, эмацыйныя водгукі ліцэістаў і ліцэістак. Інфармацыя ёсць пра ліцэйскае жыццё з усіх бакоў: вучнёўскае самакіраванне, выкладчыцкія гурткі, навучанне (навучальныя праграмы, праекты, дасягненні), замежныя сувязі і разнастайныя праекты, пазакласнае жыццё і ліцэйскі тэатр, фота- і відэаздымкі. Ліцэісты не паленаваліся зрабіць нават віртуальную вандроўку па Кірава, 21, прайшоўшы якую можна адчуць сябе навучэнцам. Важкую частку дыска прадстаўляюць 8 песень, запісаных у разнастайных стылях, але на адну тэматыку «Я люблю ліцэй»

Праект «Я люблю ліцэй», а менавіта так называецца дыск, можна сапраўды назваць грандыёзным. Па-першае, яго абсалютна цалкам рабілі дзеці, а па-другое, гэта навінка для Беларусі, калі навучальная ўстанова можа пахваліцца ўласнымі музычнымі ці мультымедыйнымі кружэлкамі. Грандыёзнасць заключаецца і ў тым, што, напрыклад, запісаныя песні цікавыя не толькі ліцэістам, але і людзям, далёкім ад ліцэя.

Навучэнцы не збіраюцца спыняцца на адным дыску. Некаторыя з іх яго называюць толькі пробным. Маючы досвед прадзюсерскай працы, у бліжэйшых праектах вучняў, цяпер адвольна размеркаваных па розных навучальных установах, запіс больш прафесійна зробленых песень, мантаж і стварэнне відэафільмаў. Дзеці маюць на ўвазе супрацу з дарослымі рок-музыкамі, якія неўпершыню ліцэістам стануць калегамі.

У якой яшчэ навучальнай установе можна такое ўбачыць? У якой яшчэ навучальнай установе дзеці вучацца з задавальненнем? У якой яшчэ навучальнай установе на апошнім званку праліваецца столькі шчырых слёз? Куды яшчэ можна зайсці, каб адчуць дух беларушчыны, будучыні Беларусі? Пытанні не патрабуюць адказаў, бо і так усё ўсім зразумела. Незразумела гэта толькі нашым чыноўнікам.

Я не жыву для таго, каб камусьці кланяцца і ганебна выконваць чыесьці загады. Я не буду знішчаць сапраўды добрае, а ўсхваляць загноенае і брыдкае. Я буду мець сваю думку і не буду перашкаджаць мець думку іншым. І я буду жыць у свабоднай, у сваёй краіне.

На адваротным баку дыска змешчана выказванне сёлетняй выпускніцы Волі Какшынскай, якое завяршаецца словамі: «Дорым яму сваю любоў, прысвячаем сваю творчасць, прысягаем сваёй незалежнасцю. Табе, Ліцэй. Ад усяго сэрца і назаўсёды».

**Франак ВЯЧОРКА,**
**навучэнец 3-га курса**

# Споведзь пацыенткі

***Закон РБ «Аб ахове здароўя: «Айчынная медыцына павінна мець прафілактычную скіраванасць». Ува што гэта ператвараецца на практыцы, можна пабачыць з маналогу звычайнай пацыенткі звычайнай сталічнай паліклінікі:***

**Уражанні**

– Сонейка не прадвяшчала нічога кепскага, але па абедзе нясцерпна забалела горла. А чацвёртай гадзіне мяне адпусцілі з працы, а шостай вечара я ўжо была ў паліклініцы па месцы жыхарства. Участковая доктарка працавала да абеду, дзяжурнага доктара не было, то мяне накіравалі ў кабінет даўрачэбнага прыёму. Разлеваная дама ў белым халаце запытала:

– Што вам трэба?

Я растлумачыла, што мне вельмі баліць горла і тэмпература пад трыццаць дзевяць.

– Гэтага не можа быць. Вазьміце градуснік, – было мне загадана.

Тут у кабінет увайшоў доктарчын знаёмы, і яны павялі свае размовы. Яна мерала яму ціск, ён абяцаў нешта там завезці ёй на лецішча. Ціск у хамаватага, з дазволу сказаць, пацыента быў 122 на 82. Заўважылі, якая дакладнасць? І доктарка як пачне над ім кудахтаць: «Ай, які кепскі ціск!» Між іншым, ідэальным для дарослага чалавека лічыцца 120 на 80. Але калі ў справе замяшаны дошкі для лецішча, дык і найменшае адхіленне табе пададуць як страшную хваробу. Урэшце гэтыя задушэўныя гутаркі мне надакучылі, і я працягнула даме ў белым градуснік.

– Дзеўчына, як вы сябе паводзіце, вы што, не бачыце, я з чалавекам размаўляю!

– Я паводжу сябе нармальна. Гэта ваш чалавек увараўся ў кабінет, нягледзячы на тое, што тут ужо была я. А па-другое, у мяне тэмпература, а ў яго – дошкі.

Дачніца, што спалучала хобі з працаю ў паліклініцы, пазірнула на градуснік і здзіўлена так сказала:

– І праўда тэмпература. Зараз патэлефаную, вас прымуць без чаргі... Ну ідзіце, там выйдзе па вас медсястра.

Я паднялася на другі паверх, і сапраўды разам з пацыентам выйшла медсястра і запрасіла мяне ў кабінет. Жанчына гадоў 65 і загаласіла, што маладыя ходзяць у паліклініку ды яшчэ без чаргі, а яна, такая хворая, усё сядзіць. Але медсястра неяк разруліла сітуацыю. Чужая ўчастковая выпісала мне бальнічны, нейкіх таблетак і сказала заўтра прыйсці да сваёй участковай.

Так я і зрабіла. Але замест таго каб накіраваць мяне да ЛОР-доктара, участковая пачала абуражацца, што мне ўжо 30, а дзяцей няма. Гэтая бессэнсоўная лекцыя доўжылася 10 хвілін. Атрымлівалася размова двух глухіх. Яна мне – пра дзяцей, я ёй – пра хворае горла. Дык вось, нічога такога яна не знаходзіць, каб мяне накіраваць да ЛОР-доктара, а пра дзяцей трэба падумаць і неадкладна радзіць пару-тройку. Увогуле, дактары раённых паліклінік так захапляюцца абмеркаваннем дэмаграфічнай праблемы, што зусім страчваюць кваліфікацыю па сваім профілі. Самае смешнае, што гэтую ж лекцыю мне пазней давялося нанава праслухаць і з вуснаў загадчыцы аддзялення. Яна ўсё мяне пужала нейкімі ўлікамі жанчын дзетароднага ўзросту. Кашмар: ставяць на ўлік, як нейкага хулігана. І ніхто з гэтых дарадцаў чамусьці не пацікавіўся: а чаму я не раджаю? А можа я эгаістка і загадзя ведаю, што не буду любіць дзіця. Тады нашто яго раджаць? І так хапае няшчасных дзяцей, якіх пусцілі на свет ударніцы дэмаграфічнага фронту – алкагалічкі.

Участковая прызначыла здаць аналізы і абавязкова наведаць кабінет гінекалагічнага агляду. Флюараграфію я праходзіла не так даўно, таму пра яе – ані слова. Добрасумленна здаўшы аналізы, я прынесла даведку ад гінеколага з прыватнага медцэнтру. У гэтага доктара я стала назіраюся. Ах, які мне з гэтай нагоды закацілі скандал! Аказваецца, я хаджу па «левых» дактарах і прыношу немавядама якія даведкі. Вось не закрыюць мне бальнічны – і пайду як міленькая ў іхні кабінет...

Слоўная перапалка доўжылася хвілін дзесяць. Я прыгадала, як аднойчы трапіла-такі ў гэты кабінет. Там мяне чакала цёця з выглядам ката. Распытаўшыся «замужам – не замужам, жывяце – не жывяце», яна загадала «залазіць». Мае довады, што медцэнтр мае дзяржаўную ліцэнзію, а доктар – найвышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю, якую таксама прысвойвае дзяржаўная камісія, ні ў чым не пераканалі самадурку ў белым халаце. Тады я ўзяла са стала сваю медыцынскую картку і паказала дзіўны запіс пра тое, што я была на планавым прафілактычным аглядзе і мне рэкамендавана курортнае лячэнне. Але рэч у тым, што ў дзень «агляду» я знаходзілася за мяжой, пра што ёсць адпаведная адзнака ў маім пашпарце. Дык вось, пайду я зараз з гэтай карткаю, напрыклад, у Міністэрства аховы здароўя...

О, якім тут доктарка супергрэбным рухам і з якою мальбою ў вачах забрала маю картку і адразу ж закрыла бальнічны!

**Асэнсаванні**

І вось цяпер я думаю: а ці трэба мне такое лячэнне? За пяць дзён на бальнічным я здала аналізы, мне прызначылі агульнавядомыя і агульнадаступныя лекі. Да ЛОР-доктара я так і не трапіла. Бо талоны былі толькі на наступны тыдзень, а спадзявацца, што «без талона прыме», я не рызыкнула.

Выйшаўшы з бальнічнага, я знайшла час і грошы наведаць ЛОР-доктара ў клініцы, што замацавана за нашым раёнам. Звычайная платная кансультацыя. Але зусім іншае стаўленне. Іншы падыход і непараўнальны з паліклінікай узровень ведаў у дактароў. Кансультацыя доўжылася паўгадзіны. Мне задавалі процьму пытанняў, узнавілі карціну ўсіх хваробаў. Больш за тое, доктарка рэкамендавала абследаванне ўва ўмовах стацыянару. Я выбрала дзённы стацыянар. Цяпер да абеду прымаю працэдуры, потым іду на працу. Мяне такі графік задавальняе. Калі скончыцца лячэнне, абавязкова прыйду да сваёй участковай доктаркі і прынясу заключэнне з клінікі. Хай пабачыць, што граматныя дактары знайшлі там, дзе яна «нічога сур'ёзнага» не знаходзіла.

Чытаючы паміж працэдурамі газеты, я са здзіўленнем даведалася, што цяпер у нас асноўны ўпор робіцца на лячэнне ў амбулаторных умовах. Яно зразумела: грошай у дзяржавы няма, каб у бальніцах нас яшчэ і карміць. Але ж людзі, зацікаўленыя ў лячэнні, а не ў кармленні, насамрэч без праблем пагаджаюцца на дзённы стацыянар. Выгадна ўсім: дзяржаве не даводзіцца спаўняць ролю сацыяльнага прытулку, а пацыент атрымлівае якаснае лячэнне. Бо пакуль у асноўным толькі клінікі маюць дыягнастычнае, працэдурнае і лабараторнае абсталяванне. Дасведчанасць і прафесіяналізм у дактароў, што працуюць у стацыянарах, незраўнана вышэйшы, чым у дактароў з паліклінік. Бо апошнія часцяком не лечаць, а толькі ганяюць пацыентаў з кабінета ў кабінет, робячы выгляд, што працуюць, і гэтак марнуюць выдзеленыя на іх немалыя грошы.

Я не за тое, каб пазачыняць паліклінікі і пазвальняць адтуль дактароў, бо ўсе дактары там кепскія. Вядома ж, ёсць і добрыя, сумленныя, адказныя. Іншая рэч, наколькі абмежаваны іхнія магчымасці, калі галоўная іхняя задача – не лячыць, а лічыць. І гэта лёгка зразумець. Усюды ў свеце, якім мы давяраем сваё здароўе, маюць заробак, які дазваляе ім выконваць працу без лішніх турботаў. Я за тое, каб лячэнне не падмянялася справаздачамі пра рэфармаванне аховы здароўя.

**Яніна ЛІПЕНЬСКАЯ**

# Літоўскі вопыт

Хутка пачатак новага навучальнага года. Самы час падумаць пра набыццё падручнікаў. У той час, як нашыя чыноўнікі ад адукацыі думаюць, як прымусіць маленькіх беларусаў прымусіць вучыцца па «ідэалагічна правільных» падручніках, іх літоўскія калегі клапоцяцца пра здароўе сваіх школьнікаў.

Цяпер усе школьныя падручнікі ў Літве мусяць адпавядаць гігіенічным нормам, зацверджаным міністэрствам аховы здароўя.

За апошнія дзесяць гадоў у Літве стала ўдвая больш дзяцей ва ўзросце да 15 год с няправільнай паставай і скрыўленым пазваночнікам. Медыкі ўпэўненыя, что адна з прычынаў гэтага – непад'ёмныя школьныя ранцы.Таму новыя падручнікі не мусяць быць цяжкімі. Для навучэнцаў 1–4 класаў максімальная вага аднаго падручніка не можа быць большай за 300 грам, для вучняў 5–8 класаў – 400 грам, 9–10 класаў - 500 грам, 11–12 - 600 грамаў.

Апроч вагі, пры стварэнні гігіенічных норм медыкі і настаўнікі звярнулі ўвагу на тое, што ўсё больш дзяцей пакутуюць ад пагаршэння зроку. Спецыялісты лічаць, што ў пагаршэнні зроку вінаваты шрыфт некаторых падручнікаў. Высветлілася, што менш шкодзіць зроку прамы шрыфт чорнага колеру. Уся каляровая шрыфтавая аздоба падручнікаў (выдзялені абзацаў, правілаў і да т. п.) нясе ў сабе небяспеку. Медыкі раюць друкаваць падручнікі гарнітурамі з літарамі аднолькавай таўшчыні, на неяркім фоне, каб літары былі выразнымі. Забараняецца выкарыстоўваць арнаментальныя альбо ажурныя шрыфты.

Малюнкі і ілюстрацыі не мусяць быць занадта кантрастнымі і яскравымі. Для падручнікаў забараняецца выкарыстоўваць паперу, фарбы і іншыя матэр'ялы, якія ўтрымліваюць шкодныя рэчывы.

Безумоўна і ў нас ёсць добрыя падручнікі, якія могуць быць узорам для кожнага выдавецтва. У кожнай кнізе для дзяцей пазначаны сертыфікаты на адпаведнасць гігіенічным нормам, але дастаткова зірнуць на кніжныя паліцы вучэбнай літаратуры, каб пабачыць колькі там ляжыць «неадпаведнай» літаратуры - асабліва метадычнай, дапаможнай. Надрукаваныя на таннай газетнай паперы, шчыльнымі шрыфтамі дзеля эканоміі, з невыразнымі вокладкамі, усялякія «дапаможнікі» і «шпаргалкі», «сто сачыненняў» і «экзаменацыйныя матэрыялы», дзе часцяком пазначана маскоўскія выдавецтвы, уяўляюць небяспеку для нашых вучняў

**К.КАМОЦКАЯ,**
**Вільня**

# *Колькі каштуе паступіць у вну у ЗША?*

**Паступленне ў вну у самай рынкавай краіне свету – ЗША – становіцца бізнесам. З'явіўся нават новы сектар у сферы паслугаў – індустрыя прыватнага кансультавання абітурыентаў. Дэмаграфічны ўсплеск напрыканцы 1980-х гадоў пачынае пераробляць яе ў самую прыбытковую галіну бізнесу, злучанага са сферай адукацыі.**

Галоўнай прычынай хуткага росту папулярнасці інстытута кансультантаў стаў высокі конкурс абітурыентаў універсітэтаў. У найбольш прэстыжныя навучальныя ўстановы Амерыкі на адно месца прэтэндуюць дзесяць чалавек. Гарвард, у які ў верасні прыйдуць 2.056 новых студэнтаў, атрымаў у гэтым годзе 20.986 заяваў з просьбай аб прыёме, Прынстан заліччыў 1.570 кандыдатаў з 15.725, якія імкнуліся паступіць.



Узніклы ажыятаж узмоцнены скарачэннем бюджэтных асігнаванняў на дзейнасць дзяржаўных дэпартаментаў упраўлення сярэднімі школамі. У апошнія гады на аднаго дзяржаўнага кансультанта, які ўваходзіць у штат такіх дэпартаментаў, прыходзілася ў сярэднім каля 500 навучэнцаў. У некаторых выпадках гэтая лічба сягае тысячы. Падобныя суадносіны выключаюць магчымасць кваліфікаванай ацэнкі здольнасцяў і перспектываў кожнага школьніка.

Па дадзеных Асацыяцыі незалежных кансультантаў па пытаннях адукацыі, за апошнія пяць гадоў колькасць навучэнцаў, якія карыстаюцца яе паслугамі, падвоілася і складае зараз 6% ад агульнай колькасці школьнікаў. Арганізацыя налічвае сёння каля 40 чальцоў і пры гэтым штотыднёва атрымоўвае 25–30 заявак ад жадаючых паступіць у гэтае аб'яднанне. Разам у ЗША дзейнічаюць ад 1.300 да 1.500 прыватных дарадцаў, для якіх кансультаванне – галоўная крыніца заробку, і яшчэ некалькі тысяч займаюцца гэтым час ад часу.

У пакет паслугаў дарадцы-рэпетытара ўваходзяць пачатковая кансультацыя, болей ці меней працяглае (звычайна двухгадовае) кіраванне падрыхтоўкай да паступлення ў вышэйшую навучальную ўстанову і папярэднія кантакты з будучымі экзаменатарамі: кансультанты, з якіх шмат хто працаваў у прыёмных камісіях, у поўнай меры скарыстоўваюць ранейшыя сувязі, глумачачы калегам, на якія вартасці іхных падапечных трэба звярнуць увагу ў час суразмоўя. Як паранальна малады рынак, гэтая сфера кансалтынга яшчэ не стала аб'ектам дзяржаўнага рэгулявання і не выпрацавала агульнапрынятай сістэмы расцэнак.

Кошт першай кансультацыі, на якой бацькі патэнцыяльных абітурыентаў вызначаюць разам з кансультантамі аптымальную стратэгію падрыхтоўкі да паступлення і спіс цікавых для іх вну, вагаецца ад некалькіх соцень да 2,5 тысяч даляраў. Кошт далейшай працы рэпетытара з вучнем – ад 5–6 да 30–32 тысяч у залежнасці ад самаацэнкі кансультанта і абранай ім методыкі, якая можа ўлічваць як зносіны з дапамогай факса і электроннай пошты, так і поўнае пагружэнне ў атмасферу ўступных экзаменаў з відэазапісамі рэпетыцыяў. У «пакет» для замежнікаў уваходзіць таксама тур па універсітэцкіх гарадках ЗША, які каштуе ў некаторых выпадках да 4 тысяч даляраў на дзень.

Некаторыя фірмы-кансультанты зрабілі свае капіталы, працуючы з карпаратыўнымі кліентамі. Напрыклад, нішай масачусэцкай College Coach стала арганізацыя семінараў і даведачных службаў для кампаній, супрацоўнікі якіх імкнуцца да атрымання адукацыі ў эканамічных каледжах. Заклапочаныя павышэннем кваліфікацыі сваіх супрацоўнікаў работадаўцы ўкладваюць у арганізацыю такога сервісу ад 10 да 350 тысяч даляраў.

Бальшыня сённяшніх кансультантаў стварылі сваю справу ўсяго некалькі гадоў таму, не маючы ні стартавых капіталаў, ні офісных памяшканняў. 36-гадовая Катрын Коэн, якая пачынала ў 1998 годзе на паддашку ўласнага дома з бюджэтам 5 тысяч даляраў, мае намер адкрыць прадстаўніцтвы ў Лондане і дзвюх гарадах ЗША. Гадавы прыбытак фірмы аднаго з пянераў гэтага бізнесу, 65-гадовага Ховарда Грына, які заснаваў сваю Educational Consulting Centers у Уэстпорце (Канектыкут) яшчэ ў 1968 годзе і які вядзе праграмы для абітурыентаў на нацыянальным радыё, складае 1 мільён даляраў.

**Алесь БЯЗЛЕПКІН**

Уладзімер АРЛОЎ

# «Адкусі галаву вароне»

***Так называецца новая кніга пісьменніка, некалькі эсэ з якой мы прапануем увазе чытача***



## Уікэнд у Коўне

З таго дня, як воляю Сталіна Вільня апынулася па-за межамі Беларусі, рака Вілія, ці лепей панаску – Вяльля, магла б ужо наталіць смагу ўсіх марсіянскіх пустэльняў. Але, не ўважаючы на ўсе намаганьні новых гаспадароў Вільні, колішняя сталіца Вялікага Княства ні ў савецкай Літве, ні пасьля аднаўленьня незалежнасьці, так і ня стала літоўскай. Гэта проста немагчыма для гораду, заснаванага крывічамі. Для гораду, дзе працаваў друкарскі варштат Скарыны й выходзіла «Наша Ніва». Дзе быў Беларускі музэй і пісаў свае змрочныя камэдыі й аптымістычныя драмы Францішак Аляхновіч...

Вільня ніколі ня будзе літоўскім горадам. А таму, калі вы вырашылі прысьвяціць свой уікэнд падарожжу ў Літву, Вільню трэба праехаць транзытам, мімаходзь адзначыўшы, што яна, Вільня, бліжэйшая да Менску за любы абласны цэнтар Беларусі.

Вам, напэўна, таксама даводзілася чуць, што, маўляў, Кіеў – сталіца Ўкраіны, а Львоў – сталіца ўкраінцаў. Пры ўсёй адрознасьці гістарычнага й палітычнага кантэксту штосьці падобнае можна сказаць і пра Вільню з Коўнам. Пагатоў больш за два дзесяцігодзьдзі, да той самай сталінскай рэзалюцыі, Коўну пашчасьціла быць сталіцаю ня толькі літоўцаў, але й Літоўскай Рэспублікі.

На аўтобусе ці аўтамабілі дарога ад Вільні да Коўна займае нейкую гадзіну. Але за гэты час вы заўважыце, што разам зь ляндшафтам неўпрыкмет зьмянілася й сама аўра навакольля. Вы адчуеце халаднаватае, але моцнае і ўпэўненае дыханьне іншага мэнталітэту, іншае, ужо не славянскае краіны.

Адрозна ад Вільні, у Коўне вашую беларускую мову аніхто не зразумее, аднак, калі пасьля кароткага экспэрымэнту вы пяройдзеце на расейскую, дык не пачуеце аніякае насьцярожанасьці, як, зрэшты, і аніякае прыязнасьці.

Усьлед за дзяжурнай ветлівай усьмешкаю вы атрымаеце падрабязнае тлумачэньне, як знайсьці рэкамэндаваны вам гатэль «Lietuva». Высьветліцца, што гатэль зусім блізка ад Лайсвэс алеі, або, у перакладзе, алеі Свабоды, на якой вы ў гэты момант стаіце, з прыемнасьцю адзначаючы, што за дзесяць гадоў, як вы былі тут апошні раз, цэнтральная ковенская вуліца зьмянілася толькі да лепшага. Вашае вока вандроўніка адзначыць новыя дагледжаныя ліхтарні, дзясяткі новых кавярняў, піўных бараў, крамак і крамаў з цалкам эўрапейскімі вітрынамі. А вось чаго не зьявілася, дык гэта нейкага прыкметнага мэмарыяльнага знаку на тым месцы, дзе на пачатку 1970-х гадоў на знак пратэсту супраць савецкай акупацыі вырашыў скончыць самагубствам сваё маладое жыцьцё ковенскі юнак Ромас Каланта. Калі вы бывалі ў Празе, дык адразу ўспомніце кветкі й сьвечкі паблізу помніка сьвятому Вацлаву, дзе таксама самахоць і з тае самае прычыны разьвіталіся з жыцьцём чэхі Ян Палах і Ян Заіц. Гэтая згадка, магчыма, прымусіць вас задумацца пра таямніцы славянскае й балцкае душы.

Ваш гатэль знойдзецца на бакавой вулачцы за сотню крокаў ад Лайсвэс алеі, і на ягоным фасадзе вы ўбачыце, відаць, адзінае ацалелае на ковенскіх шыльдах расейскае слова «Гостиница». Ад яго, як і ад велізарнага прыцемнага фае, высознае столі ды лесьвіцы з бардовай дарожкаю густа павее шасьцідзясятымі гадамі мінулага стагодзьдзя, але ваш нумар будзе ўтульным і цёплым, а тэлевізар прапануе дзясяткі два праграмаў з поўнай гарантыяй адпачынку ад сэлектарных тэлебітваў за ўраджай.

Аднак сядзець у нумары няма аніякае рахубы, бо амаль побач Музэй Чурлёніса й Мастацкая галерэя, падараваная гораду адным з суайчыньнікаў-эмігрантаў. Дзесяць гадоў таму вы бачылі ў галерэі вялікае палатно Марка Шагала. Карціну ня скралі й не адправілі на выставу. Проста выявілася, што эмігранту-мільянэру нейкі спрытнюга збыў за пару сотняў тысяч «зялёных» не арыгінал, а майстравітую перамалёўку.

Вашае расчараваньне кампэнсуе выстава твораў амэрыканскіх фотамайстроў, дзе цэнтральнае месца будзе займаць сэрыя мінэтаў, увекавечаных у вялікім памеры й шыкоўным колеры. Вы знойдзеце тут кампазыцыі на любы густ: юнак з старой, стары з амаль дзяўчынкаю, аднаполыя пары й разнаполыя трыё. Дамінантаю гэтага хваласьпеву мінэтам будзе акрабатычны аўтамінэт у выкананьні смуглявага апалёну з Тэхасу або Каліфорніі.

Зноў апынуўшыся на Лайсвэс алеі, па дарозе да Ратушнага пляцу вы захочаце запіць свае мастацкія ўражаньні глытком чырвонага віна. У гаспадара кавярні, падобнага да сівога барадатага Гемінгуэя з папулярнага здымку, чамусьці ўзьнікне да вас нечаканая, зрэшты, цалкам бяскрыўдная сымпатыя. Ён падсядзе да вашага століка з кілішкам 50-градуснага «сукцінісу» й пасьпее расказаць пра высокую кватэрную плату ды пра тутэйшых бандытаў, што сёньня апоўдні проста на вуліцы эксклюзіўна прыватызавалі ягоны мабільны тэлефон.

Вашая сустрэча з бандытамі адбудзецца не каля заснаванага ў XIV стагодзьдзі сабору сьв. Вітаўта, і не каля чысьцюткай готыкі дому Пяркунаса. Яна адбудзецца ў самай дэмакратычнай ковенскай рэстарацыі «Эльф». Там штовечар гарыць вялікі камін і йграе джаз. Там на вялізарных талерках прыносяць гэткія ж вялізарныя карбанады. Там зьбіраюцца студэнты і, палахліва азіраючыся, смокчуць піва старшаклясьніцы. Там зусім бясьпечна, бо байцы вядомай на крымінальным фронце «Ковенскае брыгады» там проста адпачываюць пасьля сваіх «сухіх» і «мокрых» справаў.

Побач з брыгаднымі шарагоўцамі й камандзірамі мужчынскае вока зьмеціць зь дзясятак тых, каго Аляксандар Купрын калісьці менаваў «ахвярамі грамадзкага тэмпэрамэнту». Праўда, гэтых упэўненых, бадзёрых і гаваркіх наведніцаў «Эльфу» ахвярамі можна будзе назваць хіба што мэтафізычна. Вы адчуеце, што значна большыя шанцы стаць ахвяраю маюць іхныя кліенты, а таму, падсеўшы да каміну, будзеце мэлянхалічна ўгамоўваць свой грамадзкі тэмпэрамэнт фірмовай літоўскай настойкай «Паланга».

Пасьля чацьвертага ці пятага кілішку вы зь невыказна цёплым пачуцьцём падумаеце пра жанчын сваёй сінявокай Беларусі і якраз у зьвязку зь імі згадаеце словы Фрыт'ёфа Нансэна пра тое, што вяртаньне – прыз любога падарожжа.

Вось толькі вяртацца ў Менск – дзеля спакою душы й чысьціні ўражаньняў – вам захочацца ў аб'езд Вільні.

*Сакавік, 2001*




## Сланы Ганібала

Гэтая гісторыя пачалася тады, калі на тваёй полацкай вуліцы быў толькі адзін тэлевізар, глядзець які да Цымэрманаў увечары набівалася чалавек трыццаць. Але табе болей падабалася хадзіць у раённую дзіцячую бібліятэку. На яе паліцах ты і знайшоў аднойчы кніжку пад загадкава-вабнай назваю – «Сланы Ганібала».

Праўда, з твару гэты намаляваны на вокладцы Ганібал быў падазрона падобны да дзядзькі Грышы Цымэрмана, які рамантаваў на рынку абутак. Але хутка выявілася, што падабенства мела цалкам выпадковы характар. Ганібалавага бацьку клікалі не Абрамам, а Гамількарам. Тэлевізара ў Ганібала не было, затое ён камандаваў войскам старажытнага Картагену, ваяваў супроць Рыму і разам з сваімі баявымі сланамі зьдзейсьніў бліскучы паход праз Пірэнэі й Альпы.

У тое лета вы колькі разоў гулялі на ўтравелых полацкіх завулках у вайну Картагену з Рымам. У вайсковых дзеяньнях на баку картагенцаў бралі ўдзел і баявыя сланы. Сланом згаджаўся быць твой сябар Вова Цымэрман, дужы габрэйскі хлопчык, які зь пятае клясы займаўся ня шахматамі, а вольнай барацьбой і вазіў цябе на плячах лёгка, як ката.

Ад таго часу праміне цэлае жыцьцё, у якім Картаген ніколі ня будзе тваёй запаветнаю марай. Ты нават ня будзеш ведаць, якую візу трэба атрымліваць, каб пераканацца, што знакамітая пастанова рымскага сэнату пасьпяхова выкананая і родны горад Ганібала разбураны.

Аднак пакручастаму сюжэту твайго жыцьця будзе заўгодна, каб першай афрыканскаю краінай, куды цябе закіне, стаў Туніс, дзе ты ўсьцешана даведаесься, штоваладар грозных сланоў рос і сталеў зусім побач з цэнтральным сталічным пляцам Тунісу, які носіць імя 7 лістапада.

У гэты дзень на тэлеэкранах аднойчы зьявіўся прэм'ер-міністар Бэн Алі, які сурова растлумачыў суграмадзянам, што нястомныя клопаты пра стабільнасьць дзяржавы падтачылі магутнае некалі здароўе ўсенародна абранага першага прэзыдэнта незалежнага Тунісу Хабіба Бургібы. Цяпер па шматлікіх просьбах працоўных арабаў і бэрбэраў краінаю парулюе ён, Бэн Алі, або, у перакладзе, проста сын Алі, а панашаму Сашы.

Сярод безьлічы партрэтаў, зь якіх новы бацька нацыі сочыць, як працуе яго забарона на дзейнасьць палітычных партыяў, ты і адшукаеш абвестку з запрашэньнем наведаць Картаген, а пералічыўшы свае дынары, з радасным зьдзіўленьнем пазнаеш на адной з купюраў сэміцкі профіль дзядзькі Грышы Цымэрмана.

Праз паўгадзіны ў абладзе салодкіх згадак маленства ты ўжо будзеш ісьці па картагенскіх прысадах, густоўна аздобленых маленькімі саркафагамі з прахам ахвяраваных богу Ваалу немаўляткаў. На пунійскіх калёнах ня будзе партрэтаў Бэн Алі. Адпачываючы ад рызыкоўных палітычных аналёгіяў, ты навядзеш фотаапарат на архітэктурны краявід і ледзьве пасьпееш пстрыкнуць, як з-за разгалістага кактусу падымецца двухмэтровы чалавек у цывільным, што без тлумачэньняў засьвеціць табе стужку. Толькі пасьля ты заўважыш замаскаваныя БТРы і стамлёна падумаеш, якія гэтыя ўладары аднолькавыя і як фатальна іх цягне да вечнасьці: адзін здае на вечнае захаваньне сваю канстытуцыю з аўтографам, другі будуе палац побач з старажытным сьвяцілішчам Тафэль.

Ты разьвернесься да рэзыдэнцыі Бэн Алі сьпінай і тым месцам, дзе яна губляе сваё гордае найменьне, і на сапфіравай асноведзі мора зьнячэўку ўбачыш юную бляндынку з валасамі колеру плятыны і амаль свойскім імем Аўшра, што па-літоўску азначае Заранка.

Мова, на якой вы будзеце размаўляць, у гэтых мясьцінах не падасца табе чужою. Аўшра будзе вывучаць гісторыю і ведаць, што картагенская культура мела тую дзіўную асаблівасьць, што не стварыла прыгожага пісьменства. Ты адзначыш, што Аўшра прыкметна вышэйшая за цябе, але гэтая трывожная акалічнасьць не перашкодзіць твайму натхнёнаму ўяўленьню, што буйна закаласіцца самымі сьмелымі мроямі.

Якраз тут да вас і падыдзе невысокі, зацягнуты ў скуру эўрапеец, якому твая суразмоўніца магла б быць за ўнучку. У зялёных вачах аб'екту тваіх каласістых мрояў мільгане лёгкая разгубленасьць, і Аўшра растлумачыць, што гэта яе каханак з Гамбургу.

Заканчэньне на стар. 8

Заканчэнне. Пачатак на стар 7.

Каханак па-гаспадарску возьме тваю нязьдзейсьненую мару за тонкую талію і павядзе яе да тэрмаў імпэратара Антонія. Гледзячы ўсьлед, ты адразу знойдзеш у постаці Аўшры некалькі істотных хібаў. Але дзеля супакою душы гэтага будзе відавочна недастаткова.

Ты прысядзеш на адбітую капітэль, заплюшчыўшы вочы, прыслухаесься да ветру, і мудры антычны вецер, які памятае велічны поступ сланоў Ганібала, пашле табе сапраўднае суцяшэньне. Ты раптам зразумееш, што Картаген прайграў Рыму і ўрэшце загінуў менавіта таму, што ня меў такой дробязі як картагенская мастацкая літаратура. Значыцца, яшчэ ня ўсё страчана. Асабліва калі ўлічыць, што тыя пэрыяды айчыннае гісторыі, якія потым называюць «залатым векам», у тваёй краіне маюць уласьцівасьць праз кожныя пяцьсот гадоў паўтарацца. Бо апошні «залаты век» скончыўся ў XVI стагодзьдзі, а табе наканавана яшчэ нейкі час пабадзяцца па сьвеце і пасядзець за пісьмовым сталом у XXI-м.

*Травень, 2001*

## Па сьлядах князя Жыгімонта

Апынуўшыся ў Чэхіі, сярэднестатыстычны падарожнік зь Беларусі, які меў у школе станоўчую адзнаку па гісторыі, напэўна згадае, што нашу першую друкаваную кнігу Францішак Скарына выдаў якраз тут, у Празе. На тое, каб ведаць, што ў чэскай сталіцы выпусьціла сваю першую кнігу й пражыла лепшыя гады Ларыса Геніюш, багажу школьных урокаў можа не хапіць. Як, дарэчы, і на тое, каб не забыцца, што на Альшанскіх могілках у Празе спачываюць прэзыдэнты Рады БНР Пётра Крэчэўскі ды Васіль Захарка.

Што да героя, якому прысьвечанае тваё сёньняшняе падарожжа ў чэскую глыбінку, дык ён і наагул вядомы нават ня кожнаму з айчынных дактароў гістарычных навук.

Чаго ня скажаш пра іхных калегаў з Чэхіі.

Чэская ўнівэрсальная энцыкляпэдыя паведамляе пра нашага суайчыньніка князя Жыгімонта Карыбута на некалькіх старонках, а спэцыялізаваная Энцыкляпэдыя гісторыі Беларусі адшкадавала яму ўсяго дзесяць невыразных радкоў.

Але гістарычныя даведнікі й манаграфіі засталіся адпачываць у Менску, а ты едзеш зь сябрам сярод засьнежаных пагоркаў у бок Кутнай Горы. Цябе цікавяць жывыя ўражаньні, зьвязаныя зь імем беларускага князя, што на колькі гадоў заняў чэскі пасад.

Князь Жыгімонт Карыбут быў пляменьнікам гаспадара Вітаўта. Яшчэ ў зусім юным веку ён браў удзел у сьмяротна небясьпечнай экспэдыцыі з мэтаю ліквідацыі беларускага кузэна Лох-Нэскае пачвары, што здавён атабарыўся ў Лепельскім возеры й штогод ласаваўся ня менш як тузінам грамадзянаў Вялікага Княства Літоўскага.

У 1410 годзе Жыгімонт мужна ваяваў на чале ўласнае харугвы пад Грунвальдам, а падчас гусіцкіх войнаў зьявіўся зь пяцітысячным беларускім войскам у Чэхіі.

Рэч у тым, што запрошаны гусітамі на каралеўскі пасад Вітаўт выявіў уласьцівую яму абачлівасьць і паслаў на выведку блізкага сваяка, якога чэхі, каб ня блытаць з сваім нялюбым каралём, таксама Жыгімонтам, ляпідарна называлі проста «князем К.».

Тым часам ты зь сябрам ужо кружляеш пакручастымі брукаванымі вулачкамі старажытнага гарадку Часлаў, дзе твой далёкі продак Жыгімонт Карыбут, ён жа князь К., склікаў увесну 1422 году чэскі сойм.

У мясцовым рэстаранчыку, што насупраць абжытага галубамі помніка слыннаму правадыру гусітаў аднавокаму Яну Жыжку, адбываецца чаканая сустрэча з часлаўскімі гісторыкамі й краязнаўцамі. Як і ўсе аматары старасьвеччыны, гэта досыць адметныя асобы, што моцна нагадваюць сваіх калегаў з славутых «Лябірынтаў» Вацлава Ластоўскага. Пададзеныя на прыкуску размаітыя сальцісоны й каўбаскі непазьбежна наводзяць на думку пра славянскае адзінства. Славянскую разнастайнасьць падкрэсьлівае тая акалічнасьць, што замест замшэлае пляшкі «Старкі», як у Ластоўскага, стол аздабляе колькі бутэлек густой чырвонай «Франкоўкі».

Банальнае для гэтых мясьцінаў, не раўнуючы як кампот для заводзкіх сталовак тваёй радзімы, віно «Франкоўка» разам з расповедамі чэскіх калегаў дапамагае больш выяўна й яскрава ўявіць, як у чаканьні соймавых паслоў князь Жыгімонт бавіў свой час. У прыватнасьці, ты даведваесься пра ягоны ўлюбёны тост, што сустракаецца, дарэчы, у Мэтрыцы Вялікага Княства. Уздымаючы кубак з тагачаснай «Франкоўкай», князь К. піў за тое, «каб дзеўка кахала, каб куля мінала, каб шабля ня брала!»


Сучасны выгляд замка Карлштайн, пра асаду якога Карыбутам апавядае Уладзімер Арлоў

Адной дзеўкі князю катастрафічна не хапала нават на адну ноч. Мясцовыя паданьні, падмацаваныя маладаступнымі пісьмовымі крыніцамі, сьведчаць, што Жыгімонт быў вялікім мілосьнікам жаночых вабнотаў. Апанаваны нечалавечай тугою па жанчынах сваёй пакінутай зь пільнай палітычнай патрэбы Бацькаўшчыны, знатны беларусін ад паўночы да сьвітаньня залагоджваў ня меней як пяць часлаўскіх прыгажуняў. Затым ён зазвычай выпіваў літровы кубак «Франкоўкі» і, сьвежы, як ранішняя маргарытка, браўся займацца дзяржаўнымі справамі.

Маладзенькая зеленавокая афіцыянтка таксама яўна ня супраць зрабіць экскурс у гісторыю і ўжо натапырыла свае дасканалыя ружовыя вушкі. Касавурачыся на яе, адзін з часлаўскіх краязнаўцаў прыцішана распавядае, што князь Жыгімонт належаў да аматараў не зусім традыцыйных спосабаў любові. Штовечар ён загадваў, апрача ўсяго іншага, прынесьці да сябе ў замкавую спачывальню збанок ліповага мёду, якім перад любошчамі мазаў сваім абраньніцам грудзі ды іншыя і без таго салодкія месцы, не забываючыся пры гэтым і пра свае ўласныя.

Звычкі заежджага беларускага князя падабаліся суворым аўтахтонам ня меней за тое, што ён прымаў любае сэрцу гусітаў прычасьце «под обойі», або, па-наску, двух відаў. Трэба меркаваць, што гэтая прыхільнасьць падмацоўвалася і наяўнасьцю пяці тысячаў узброеных да зубоў ваяроў, якія прыйшлі разам з князем К. зь берагоў Дзьвіны, Дняпра й Нёмну.

Сойм у Чаславе, на якім гаворка вялася пра чэскі трон, завяршыўся палітычным трыюмфам Жыгімонта Карыбута. Князь запатрабаваў прыгажуняў, віна й ліповага мёду, а ўраньні вырушыў з прыхільнікамі на места Праскае, дзе, як сьведчаць кронікі, быў зь вялікай пашанотаю сустрэты на Градчанах, а па часе пачаў называцца «каралём пажаданым і абраным».

Наперадзе ў князя К. было яшчэ дзесяць гадоў, прысьвечаных чэскім клопатам.

Пра адзін зь іх беларускі падарожнік усьцешана дазнаецца з турыстычнага даведніку славутага замку Карлштайн, заснаванага ў гарах паблізу Прагі чэскім каралём і імпэратарам Сьвятой Рымскай імпэрыі Карлам IV.

Карлштайн быў скарбніцай і месцам захаваньня дзяржаўных рэгаліяў. На пачатку гусіцкіх войнаў (расейскамоўны даведнік называе іх «беспорядками») цалкам лягічна паўстала праблема экспрапрыяцыі замкавых каштоўнасьцяў. Чэска-беларускае войска на чале з князем Жыгімонтам узяло Карлштайн у аблогу і, выгадна расставіўшы на горных схілах катапульты, закідвала замак велічэзнымі каменнымі ядрамі ды бочкамі з падпаленай смалой. Калі гэта не дало прыкметнага эфэкту, князь К. пастанавіў ужыць радыкальны сродак: замест смалы запоўніць бочкі фэкаліямі. «Гаўном», – сувора патлумачыў ён тым, хто не валодаў больш вытанчанай тэрміналёгіяй.

Піетэт перад колішняй улюбёнай рэзыдэнцыяй імпэратара Карла выветрыўся з адчайных гусіцкіх галоваў яшчэ не дарэшты, і сёй-той завагаўся. «Грошы ня пахнуць!» – адрэзаў адукаваны беларускі князь, што вывучаў у школе рэформы Вэспасіяна. Нагадаўшы паплечнікам актуальнае для любой эпохі антычнае выслоўе, Жыгімонт выцадзіў звычайную дозу «Франкоўкі», але гэтым разам дэманстрацыйна скрывіўся. «Квас!» – пагардліва зазначыў ён, каб канчаткова паказаць гусітам, хто гаспадар становішча.

Увечары таго самага дня замак трываў першую шквальную атаку фэкаліямі. Чэскі краніст Вацлаў Гаек зь Лібчанаў паведамляе, што бамбаваньне Карлштайну набыло вусьцішныя памеры. Не спадзеючыся на ўласныя магчымасьці, абложнікі наладзілі падвоз «набояў» ня толькі з блізкіх ваколіцаў, а нават з праскіх прыбіральняў і сталічных сьцёкавых равоў.

Уяўленьне малюе велічную батальную панараму зь дзясяткамі нястомных працаўніц-катапультаў, сотнямі пірамідаў бочак з боекамплектам і несканчонай чарадою возчыкаў-«залатароў» на праскім гасьцінцы. Ты ўжо настолькі глыбока перанёсься ў тыя рамантычныя часы, што твой нос пачынае моршчыцца ад уласьцівых ім водараў.

Менавіта гэтая акалічнасьць і вяртае цябе скрозь духмяную смугу стагодзьдзяў у часлаўскі рэстаранчык, дзе плаваюць зусім будзённыя пахі вэнджаных качак ды запечанага сьвінога калена.

Падобны да беларускага шляхціча тутэйшы гісторык цытуе Чэскую энцыкляпэдыю: «Пажаданы й абраны кароль чэскі Жыгімонт Карыбут патрапіў захаваць рэдкую талеранцыю да чэскага ерэтызму, што ў тую пару сьведчыла пра вельмі цьвярозы розум».

Ты падымаесься й прапануеш ушанаваць памяць выбітнага продка ягоным улюбёным тостам. Сонечны прамень знаходзіць твой келіх, і «Франкоўка» ўспыхвае густым рубінавым колерам – сымбалем рыцарства, ваяўнічасьці й перамогі. Вы п'яце за тое, каб дзеўка кахала й за ўсё астатняе. Зеленавокая афіцыянтка папраўляе карону сваёй каштанавай фрызуры. У лёгкай усьмешцы, што грае на ейных вуснах, ты чытаеш ухвалу й абяцаньне працягу.

Твой сябар пытаецца, ці маеш ты намер вяртацца сёньня ў Прагу. Ты марудзіш з адказам. Тваю скуру апякае салодка-вусьцішны струмок халадку. Ты бачыш у рэстаранным мэню ліповы мёд і разумееш, што ў гэтую хвіліну на цябе заахвочвальна глядзіць сама муза гісторыі Кліё.

*Студзень, 2002*

# Чапскія – валадары Станькава

Мастакам і аматарам выяўленчага мастацтва добра вядомае імя Юзафа Чапскага, мастака і літаратара, аўтара мемуараў «Старабельскія ўспаміны», «На бесчалавечнай зямлі». Увосень 1939 года ён патрапіў у савецкі палон і быў вязнем Старабельскага канцлагера, але вязнем «другой хвалі», якой пашанцавала выжыць дзякуючы стварэнню арміі Андэрса. «Першая хваля» вязняў была расстраляная ў Катыні. Чапскі па даручэнні генерала Андэрса вёў перамовы з вышэйшымі супрацоўнікамі НКУС пра лёс некалькіх тысяч польскіх афіцэраў, якія бясследна зніклі ў палоне. Юзаф Чапскі нарадзіўся ў Станькава, паходзіў са старажытнага роду, яго беларускай лініі, які меў сваім галоўным




гняздом маёнтак Станькава пад Мінскам. Чапскія – не карэнны беларускі шляхецкі род. Яны з'явіліся на Міншчыне праз шлюб Францішка Станіслава Чапскага і Веранікі Радзівіл, зводнай сястры Караля Радзівіла (Пане Каханку). Станькава раней належала Радзівілам, і Вераніка атрымала яго ў пасаг.

Асобныя звесткі пра «беларускіх» Чапскіх часта сустракаюцца ў літаратуры, але асобнага прысвечанага ім даследавання ў нас не было. Нарэшце знайшоўся даследчык, які здолеў выканаць гэтую працу. Гэта беларускі гісторык, краязнавец, архівіст Анатоль Валахановіч. На падставе архіўных матэрыялаў ён напісаў змястоўную кнігу «Графы Гутэн Чапскія на Беларусі». Яно выдадзена пад эгідай Беларускага навукова-даследчага інстытута дакументазнаўства і архіўнай справы, што выгадна адрознівае кнігу ад мноства папулярных біяграфічных выданняў, насычаных малаправернымі фактамі і нават чуткамі, якіх багата выйшла ў свет з-за попыту на гістарычную дакументальную літаратуру.

Чапскія з`явіліся ў Беларусі ў той час, калі эпоха буйных латыфундыстаў ужо мінала. Якраз у год шлюбу Станіслава з Веранікай адбыўся Першы падзел Рэчы Паспалітай. Таму Чапскія былі тыповымі сярэднімі землеўладальнікамі. З уладальнікаў Станькава найбольшую вядомасць атрымаў Эмерык Чапскі, які сабраў выдатную калекцыю гістарычных рарытэтаў і жывапісу. Раней я шмат чытала ўзгадак пра станькаўскі збор, але толькі дзякуючы кнізе Валахановіча цяпер магу ўявіць яго каштоўнасць. Лічу вартым працытаваць для чытача некалькі цікавых звестак: у зборах Эмерыка Чапскага былі 192 партрэты Пятра I, 150 – Кацярыны II, 16 партрэтаў Багдана Хмяльніцкага, 70 партрэтаў Тадэвуша Касцюшкі, 10 партрэтаў Адама Міцкевіча, партрэты Радзівілаў, Сапегаў, Агінскіх, Тышкевічаў, малюнкі нясвіжскага гравёра Тамаша Макоўскага (1562–1630), унікальныя віды беларускіх гарадоў, рукапіс IV кнігі «Пана Тадэвуша», аўтографы Міцкевіча, Манюшкі, Адынца, калекцыя манет і медалёў (каля 11 тысяч назваў), 69 ордэнаў і зорак і шмат іншых рэчаў. У сувязі з падзелам маёнтка Эмерык Чапскі мусіў выехаць у Кракаў, куды і перавёз сваю калекцыю.

У Мінску быў добра вядомы яго сын – Караль Ян Аляксандр Чапскі, які паказаў вялікія арганізацыйныя здольнасці на пасадзе гарадскога галавы. Гэта найперш яго намаганнямі ў Мінску пачала працаваць конка, былі адкрыты электрастанцыя, тэлефонная станцыя, гарадскі тэатр, піваварны завод (цяперашняя «Аліварыя»).

Старонкі, прысвечаныя радаводу Чапскіх, дарэчы, тлумачаць, адкуль пайшоў прыдомак «Гутэн». Чапскія паходзілі з Кракаўскай зямлі, а ў 15 стагоддзі набылі ў Прусіі маёнтак з назвай Гутэн, што і адлюстравалі ў родавай фаміліі. Сёння ад маёнтка Станькава нічога не засталося. Захаваліся «Скарбчык» – будынак, дзе трымаў бібліятэку Эмерык Чапскі, і сядзібны сад. У Станькаве стаяла ваенная частка, што не спрыяла рэстаўрацыйным работам.

Даследаванне ўзбагачае ўяўленні пра падзеі даўніны, запаўняе лакуны гістарычнай памяці, аднаўляе цікавыя карціны даўніны. Па вельмі малой дасведчанасці і з-за зменаў гістарычнага ландшафта мноства людзей думае, што Беларусь раней была пусткай, як балота. Кніга А.Валахановіча разбурае гэты памылковы вобраз.

**Агнета КВЯТКЕВІЧ**

# У люстры верша

Тэрэза СЦІЗОРЫК



## Гімн Нацыянальнага Акадэмічнага Вялікага Тэатра Балета Рэспублікі Беларусь

Рассыпаюцца бляску пялёсткі,
Абуджаюцца рампы агні...
Ты любоў мая, Танец! Ты – лёс мой!
Калі мэты тваёй глыбіні

Вучаць верыць, любіць, спадзявацца,
Чысцінёю – змагацца з тугой,
Сярод цяжкасцяў дзённае працы –
Я ізноў прагну Свята твайго!

Толькі ў свеце высокім і ясным
Гэту смагу душы наталю.
Я жыву тваім вечным Мастацтвам!
Я люблю цябе, Танец, люблю!

Асвяці мае рухі натхненнем!
Будзь да шчырых пачуццяў ключом!
Каб да сэрцаў падаць азарэнне,
Надзялі мае рукі святлом!

Апрані прыгажосцю бязмежнай,
І запоўні сабой маю кроў,
Бо да кроплі табе я належу –
Не жадаючы зорных вянцоў,

Толькі, крылы раскрыўшы над стомай,
Чуць, як кожная рыса – пяе,
Дыхаць ветрам музычнай прасторы –
І рабіцца Дыханнем яе!

Ты – сам Час, і ты вольны ад Часу!
Ты адорваеш Небам Зямлю!
Я жыву тваім вечным Мастацтвам!
Я люблю цябе, Танец, люблю!

## Выбранніца Макбэта
(Люстэрка)

Мы створцы Тэатру Сусветаў,
Мы пішам чырвоным і чорным.
Вось маскі. Табе – быць Макбэтам,
А мне – тваёй Нарачонай.

Хай будзе смяротнай здрада,
Хай вусны жывуць у змове;

У правай руцэ – меч Улады,
На левай – мае далоні.

Забойца, у сэрцы якога –
Няма аніводнай заганы,
Уяўным вянцом верасовым
Ты будзеш каранаваны.

Да правай рукі – дух злачынства,
Да левай рукі – вусны Тайны.
Уладай сваёй непахіснай,
Душой Караля – загадай мне

Зрабіцца люстэркам прароцтва,
Адзінаю сведкай пяшчоты...
Па правай руцэ – будзе помста,
Па левай руцэ – пойдзе цнота.

Сумленню – блукаць паміж імі,
Маліцца, каб думак ня выдаць;
Над ценем – крывавы прывід,
Над сэрцам – твая Вялікасць...

## Тарэра

Бог выкліку – нястрымны, жорсткі...
Дзве бліскавіцы – крылы рук...
Як чырвань абуджае дзёрзка
У шоўку складак – кожны рух!

О, мілы, той запал – каштоўны:
Алмазамі – на скронях соль!..
Апалы – вострых зрэнак зоры!
Бяры ў далонь – агню далонь,

А полымя – ў палёт яскравы,
Каб толькі іскры – наўздагон,
Каб волю небяспечнай мары
Спазнаць – цаной жыцця майго!

У гонар твой – фантаны кветак!
На вусны – пераваг пячаць!
...Спакой кранае шоўк мулеты,
А кроў цяпер – ня ўтаймаваць...

## Вясна
(з лірыкі вагантаў)

*Ніне Іосіфаўне Ламановіч, з павагай*

Стаіць у промнях нерухома,
Чакае таямнічы знак,
І ружы, поўныя пакоры,
Ляжаць на сэрцы і руках.

Яна – павінная замерці,
Перачакаць зыход Зімы.
Ёй постаць ружамі расквеціў
Сам Феб – выбраннік веснавы.

Як толькі вецер дакранецца,
Каб знаць, што боскасць – існуе,
Празрыстасць покрыва – пральецца
Пялёсткамі да ног яе.

## Фея Бэзу

Калі твой лёс цябе параніць,
Дзяцінства казку – у вачах
Празрыста адлюструе памяць,
І мару нагадае страх.

І, каб не знік той казкі звычай
Перамагаць закляццем зло,
Палац пагрозы таямнічай
Збудуе навакол Святло...

Цябе не ўбачыць Боль ніводны
Праз водарны ліловы дым.
Ты – пад аховаю дрымоты,
У лепшым сховішчы зямным,

Краіне з назваю Ніколі
На рубяжы начы і дня...
Замруць імгнення мімаволі,
Кране фантаны цішыня,

Сплятуцца ўсе галінкі бэзу –
Карункі з крылаў Чараўніц...
Не абуджай душу-Прынцэсу
Ад вечных вёснаў, летні Прынц.

Хай рэчаіснасць непрабуднай
Пакіне поўны мары лес...
Бо лепшы Цуд – чаканне Цуду,
Той Час, калі квітнее бэз...

## Срэбра

**Рагнеда** (*да Яраполка*)

Пажару ўздымаецца ветразь,
І – вецер, і – чутна:
Даруй мне...
У радасці нашай – каб ведаць,
Што Бог па табе сумуе!

На горкія кропель блакіты
Зірні праз чырвоныя кроплі...
Я сэрцам цябе не пакіну
Ніколі, мой любы, ніколі!

Дыханне тваё – я на вейках
Маіх забяру і ў самоту!
Прымі пацалунак завеі,
Як вуснаў маіх прахалоду.

Усім адзінотам – Адзіны,
Мой цень – у нядолі, ці мроі,
Любоўю – цябе не пакіну!
Ніколі, мой родны, ніколі...

Схіляючы позіркі ў срэбры
Да краю ў смяротным снезе,
Як Бог сумаваў – так у Небе
Сумуй па сваёй Рагнедзе!

І ў тым серабрыстым багацці
Забыцца на тое, што маю,
Дазволь мне, спякотная памяць.
Кахаю цябе, кахаю...

## Прыгадваючы Дэмана Вышыні

Як ля Сусвету акіяна –
Каля люстэрка ўсіх вышынь
Яго душу я цалавала
У глыбіні маёй душы.

Агнём праходзячы наскрозь іх –
Два сэрцы, рысы на пясках –
Усхваляваны божы Позірк
Прадбачыў: тут, на Берагах,

Мне нагадаюць дні і ночы
Забойства мары ў доўгім сне;
Як сон – ён вернецца аднойчы,
Каб век вяртацца да мяне...

(Як без цябе – усё бязлёсна!
Як беспрамення – у цішы...
Мой Змрок, калі заслоніш Сонца,
Ад іншых промняў сцеражы!»)

Магчыма, лёдам будзе кіпень
Крыві, пакінутай, як След;
Магчыма, і Сусвет загіне,
Як той, хто азарыў Сусвет,

І толькі хвалі пранясуцца...
Але як цёпла – праз тугу
Да абяцання дакрануцца:
На дне глыбокім – застануцца
Мае малюнкі на пяску.

## Разважлівасць

Так. Прыгажосць – у Дабрыне.
Ды, як Наіўнасць не адорыш, –
Свае каштоўнасці ў яе.

Удзячна апране каралі,
А рукі, што нам мёд нясуць,
З якім даверам іх прымалі,
З такім і Страце аддадуць.

І побач – вірам – блізка, блізка –
Лязом разбітых замкаў шкла –
Расчараванне будзе віцца,
Як цень, згубіўшы след святла.

Яна, здаецца, прыгадала
Адну загану: сквапнасць жыць
(Наіўнасці – і свету мала,
Яе згубіць – як свет згубіць),

І вось – праз цёмную прастору,
З якой прыходзіць супакой,
Вачыма, поўнымі дакору,
Глядзіць на падарунак твой.

Дмітр ОСІКА



## Аб Вітаўце

Ішла магутная ганьба-знявага,
Крыжацкі гмах ушчэнт гвалтаваў;
Жаўнер сваімі гартам, прагай
Бацькоўскую бачыну ратаваў.

Ішла гайня на лёнд айчыны,
А з ёй змаганне, калатня...
Тады ад натоўпу злачынцаў
Пакінута была ці парахня?!

Магутны Вітаўце! Твой клёк
Заганную навалу здрасаваў
І нам, нашчадкам, наказаў:
Імпэт – карэнне перамог.

## Вясна

Прыйду я да рэчалкі
Подкаці там знічанькі,
Іх хістанне наглядаць,
Нібы груцы іх чапаць.

У кішэні закратую,
Хай яны, як я, сумуюць...

Гнэд узрушу марамі,
Узнімусь над хмарамі,
Каб ушэхнэ ведалі,
Сустракалі спевамі.

Палячу на водар бэзу,
Ды на гукі паляннзу...

Ды убачу: да Радзімы
Закаханы я адзіны;
Нагартую сабе прагу,
Запытаю я знявагу:

Колькі шчэ наканавана
Нам ганьбы трываць навалу?
Люду шпатнае сумленне
Броснець будзе ў сутарэнні?

Цьмавы лёс не да спадобы!
Я жадаю гучнай мовай
Вёскі, месты узрушаць,
Сэрцы людзям хваляваць...

Вабіць, гаіць, марыць,
Ды нарэшце бачыць,
Як, рахманая здаўна,
Квітнее наша Вясна.

## Урывак

Калі яна, бы птушка-paradis,
Чароўна міне блізу яго
Ты выпадкова раптам паглядзі,
Як моцна запаляецца агонь,
Як ён, нерухомы, парахнее,
Вусны зачынены – енк у душы,
Спякота ўнутры – звонку дранцвее...
І толькі цяжкі подых у цішы.

## Урывак

Па-жураўлінаму кахаю
Начную плынь тваіх азёр
чароўных,
Калі магчыма, я знікаю
У вабным віру хваляў
шыкоўных...

А калі ніцая вярба
Схіліцца над вачыма,
Нібы пяшчотная журба,
Мяне захінваюць вейкі –
– галіны...

## Хаўтуры

Гаротнікі маркотнае бачыны!
Пад час маркоты парахнее лёнд!
Ці тыя вы, хто гартуе сілы?
Дзе ваш старанны плён?

Я чую, енчыць хтось...
Ці, Беларусы, гэта вы?

Я ведаю, так павялось,
Схаўтурылі і працу мы.

## Мора

Я ўпершыню адчуў сябе морам!
Аб абодвух берагах забыў!
Раскалыхаўся, змыўшы змору
І розум у хвалях амура згубіў...

Бяздоннае мора кахання...
Як утрымаць яго ў душы?
Не марнуючы ў чаканні,
Яно ўзбунтуецца ў цішы!

І выльецца ў прамень тваіх вачэй, –
Заграюць колеры вясёлкі...
А як жадаецца хутчэй
Схапіць цябе здалёка.

Высока ў блакіце – райская птушка,
Высока яшчэ, каб слухаць мора...
Хваляў змацнелых шалёная стужка
Здабудзе каханне, ці гора?

Я ўпершыню адчуў сябе морам!

## Praha

Цудоўнае места Прага!
Ты ёсць мая мара і цяга,
Бязмоўная смага,
Вады небасхіл,
З якою б душу апаіў!

Цудоўнае места Прага!
Мая несупынная прага...

# Прыярытэты літоўскай арміі

**Літва па вядомых гістарычных прычынах упэўнена ў тым, што менавіта толькі НАТО і ЗША з'яўляюцца гарантамі ейнай бяспекі. Згодна з рашэннямі Пражскага саміту НАТО, Літва ўступіць у гэтую арганізацыю ў траўні 2004 года, і цяпер актыўна рыхтуецца да гэтай падзеі – хуткімі тэмпамі стварае сучасную армію, здольную абараніць межы краіны, а таксама браць удзел у міжнародных аперацыях пад эгідай НАТО.**

Перспектыва ўдзелу літоўскай арміі ў ваенных аперацыях за межамі тэрыторыі краіны разглядаецца тут як ключавы элемент дактрыны нацыянальнай бяспекі. Пачынаючы з 1999 года 200 літоўскіх вайскоўцаў прынялі ўдзел у 9 міжнародных місіях па падтрымцы стабільнасці. Вайскоўцы Літвы знаходзяцца ў Косаве, а яе сілы спецназа размешчаны ў Афганістане. Вільнюс таксама збіраецца адправіць свой кантынгент у Ірак, і літоўскія вайскоўцы будуць знаходзіцца ў той зоне бяспекі, якую ў Іраку кантралюе Польшча. Для Літвы ж адносіны з Польшчай у ваеннай сферы з'яўляюцца прыярытэтнымі.

Літва хоча ператварыцца ў карыснага ўдзельніка блока НАТО і не мае намеру станавіцца для альянса лішнім грузам. «Абарона Літвы – гэта абарона НАТО, а абарона НАТО азначае абарону Літвы», – абвешчана ўва ўлётках, распаўсюджаных міністэрствам абароны краіны.

Такая праатлантычная пазіцыя кіраўніцтва Літвы цалкам адлюстроўвае жаданні насельніцтва, якое актыўна настроена на карысць прыярытэтных стасункаў з Амерыкай. Гэта зразумела: бо з першых дзён незалежнасці рэспублікі, абвешчанай у 1991 годзе, амерыканцы падтрымалі Вільнюс і накіравалі туды сваіх экспертаў і дарадцаў. Прычым з вяртаннем на радзіму шматлікіх літоўскіх эмігрантаў падтрымка з боку ЗША яшчэ болей узмацнілася. Начальнік штаба літоўскай арміі Ёнас Кронкайціс у мінулым быў палкоўнікам амерыканскай арміі.

«Мы ім шмат у чым абавязаны», – сцвярджае галоўнакамандуючы сухапутнымі сіламі Літвы генерал Вадас Туткус, які адслужыў 13 гадоў у савецкай арміі (з іх два гады ў Афганістане) і 13 гадоў у новым літоўскім войску. Насуперак свайму мінуламу вопыту, у генерала Туткуса ніколі не было з літоўцамі з Амерыкі нават дробных супярэчнасцяў адносна таго, якую армію трэба будаваць. Сама думка пра тое, што супярэчнасці могуць узнікнуць, здавалася яму «абсурднай».

«З пачатку 90-х гадоў мы вырашылі, што наша армія будзе арміяй заходняга тыпу. З гэтай мэтай мы адправілі нашых афіцэраў у акадэміі краін НАТО, у прыватнасці, Даніі, ЗША, Францыі і Вялікабрытаніі. Сёння 60% нашых афіцэраў з'яўляюцца выпускнікамі замежных акадэміяў», – не без гонару гаворыць генерал Туткус. Афіцэрскі склад арміі быў у значнай ступені абноўлены. Практычна ўсе кадры з былой Савецкай арміі пакінулі літоўскае войска.

У свае 42 гады Туткус з'яўляецца адным са старэйшых літоўскіх афіцэраў. Менавіта яму даручана падрыхтаваць да ўдзелу ў ваенных аперацыях элітную брыгаду «Жалезны воўк», якая складаецца з пяці батальёнаў. Гэтая брыгада будзе касцяком літоўскіх сухапутных войскаў, якія налічваюць 7 тысяч чалавек (з іх 4.200 – афіцэры). Літоўцы робяць стаўку «на якасць сваіх войскаў», а не на іх колькасць. Прыярытэтамі з'яўляюцца мадэрнізацыя арміі шляхам закупкі абразчыкаў натаўскіх узбраенняў, а таксама падрыхтоўка прафесійных армейскіх кадраў.

Літва ганарыцца тым, што стала першай еўрапейскай краінай, якая мае супрацьтанкавыя ракеты Javelin. Яна нядаўна набыла навейшыя сістэмы радыёсувязі. Па меншай меры на працягу бліжэйшых гадоў выдаткі Літвы на абарону будуць складаць 2 працэнты бюджэту краіны.

**Le Figaro**



**Сімвалічная скульптура «Заняволеныя» ў Страсбургу ў скверы каля будынка, у якім месціцца міжнародны Трыбунал правоў чалавека.**

## Страты ў Чачні

На сённяшні дзень колькасць расійскіх вайскоўцаў, якія загінулі на другой чачэнскай вайне, складае 12 тысяч. У гэтым ліку знаходзяцца як тыя, хто загінуў непасрэдна ў час ваенных дзеянняў, так і памерлыя па дарозе ў шпіталь, у шпіталях ці пазней – на працягу страхавога года пасля звальнення ў запас. Па дадзеных Саюза камітэтаў салдацкіх маці, «кожная вобласць Расіі за другую вайну страціла каля 200 чалавек». «Гэта не толькі салдаты, але і супрацоўнікі спецслужбаў, афіцэры, АМАП. Гэта вельмі вялікая лічба», адзначылі прадстаўнікі Саюза салдацкіх маці Расіі.

**Newsru.com**

## Карысць спякоты

Надзвычайная спякота, якая стала прычынай смерці мноства людзей у Еўропе, аказалася карыснай для французскіх вінаробаў. Згодна з прагнозамі экспертаў, гарачае сонечнае надвор'е надасць віну ўраджая 2003 года выключна багата букет. Знаўцы абяцаюць, што віно сёлетняга ўраджаю будзе нават лепшым, чым непераўзыдзенае да гэтага часу віно ўраджаю 1947 года.

У Бургундыі пачаўся самы ранні за ўсю гісторыю збор ураджаю вінаграда, з якога выбраляюць прэстыжныя чырвоныя віна. Такое рашэнне прыняла французская Асацыяцыя вінаробаў. Вытворцы віна чакаюць у гэтым годзе значных прыбыткаў.

## Куміры



**Бык падымае на рогі дылетанта, які імкнуўся пагуляць з небяспечнай жывёлінай на традыцыйным святе непрафесійных тарэра ў Мадрыдзе.**



**Знакамітая Неферціці сапраўды была надзвычай прыгожая. Брытанскія вучоныя закончылі працу па рэканструкцыі твара легендарнай царыцы, мумію якой знайшлі яшчэ ў 1898 годзе. Аўтары рэканструкцыі, якія не ведалі чый воблік аднаўляюць, былі ўражаны падабенствам іх твору з прыжыццёвымі скульптурнымі партрэтамі царыцы Егіпта, якія захоўваюцца ў музеях.**

# Тыранічныя рэжымы. Ці магчыма ліквідацыя?

**Ален БУАЙЕ,**
**Прафесар філасофіі ў Сарбоне**

**Задоўга да таго, як узнік тэрмін «права на ўмяшальніцтва», галандскі філасаф Гроцый (1583–1645) прыйшоў да высновы, што бываюць войны, апраўданыя «чалавецтвам».**

Гэтыя войны вя0дуцца супраць тыранічных рэжымаў, прыкладам, такіх, як сумна вядомая тыранія Фалярыса (сіцылійская тыранія VI ст. да н.э.). Фалярыс катаваў людзей, зачыняючы іх у пустацелую бронзавую скульптуру быка, якую раскалялі на агні. Паліцыя Садама Хусейна пагружала працуўнікаў рэжыму ў кіслату.

На маю думку, галоўны палітычны праект пачатку гэтага стагоддзя павінен выявіцца ў выкараненні тыранічных рэжымаў. Не абавязкова шляхам вайны, але, па меншай меры, шляхам пагрозы яе пачаць ці шляхам ізаляцыі тыраніі. Было б наіўна спрабаваць прылашчыць тырана, бо гэта азначала б захаванне статус-кво: калі тыран не баіцца быць знішчаным замежнай арміяй, ён будзе працягваць задушэнне свайго ўласнага народу, як гэта рабіў з 1991 года Хусейн. Трэба стварыць для тыранаў атмасферу пераследу з боку міжнароднай супольнасці і аддаваць іх пад суд. Аднак для выканання гэтай задачы ні ААН, ні НАТО, ні ЕС не з'яўляюцца адэкватнымі інструментамі.

Вырашэннем праблемы можа быць стварэнне замест НАТО новай арганізацыі без геаграфічных крытэрыяў і без крытэрыяў, злучаных з «культурным» ці эканамічным узроўнем. У аснову павінна быць пакладзена толькі палітычнае вымярэнне. Гэтая арганізацыя магла б умоўна называцца «Міжнароднай федэрацыяй «свабодных грамадстваў», адпаведна тэрміну філасафа Карла Попера. У гэты саюз маглі б увайсці краіны Еўропы (за выключэннем Беларусі, Украіны, Расіі), краіны Паўночнай Амерыкі, шэраг краінаў Лацінскай Амерыкі (Чылі, Бразілія), Азіі (Індыя, Японія), Акеяніі і Афрыкі (Сенегал, ЮАР).

Прававаі падставай для стварэння такога саюза павінна стаць наяўнасць наступных умоваў: існаванне дэмакратычнага плюралістычнага грамадства (са свабодай СМІ), адсутнасць палітыкі тэрору, незалежнасць судовай сістэмы, адсутнасць войнаў з суседнімі краінамі ці ўнутры краіны, функцыянаванне дэцэнтралізаванай і адкрытай эканомікі. Інакш кажучы, размова ідзе аб грамадстве, якое павінна быць нагэтульки плюралістычным, што ўладары рэжым не здолее існаваць без згоды большасці насельніцтва.

ЗША, адзіная сусветная звышдзяржава, мела б сыграць ролю сімвала неабмежаванай магутнасці, здольнага трымаць у боязі тыранічныя рэжымы. Што ж да «новага НАТО», дык гэтая арганізацыя павінна карыстацца дастатковым уплывам, каб падштурхнуць Расію спыніць вайну ў адным са сваіх рэгіёнаў ці прымусіць Ізраіль і палестынцаў прызнаць іх дзяржаўныя ўтварэнні.

Трэба звярнуцца да іх з такім заклікам: «Каб уступіць у наш клуб дэмакратычнай калектыўнай бяспекі, стварыце мір на аснове справядлівага кампраміса і на аснове абавязацельстваў, якія выключаюць давер, і фарміруйце адкрытае грамадства». Як павінна функцыянаваць новая арганізацыя? Трэба чэрпаць натхненне ў вялізнай працы, якую прарабілі еўрапейцы на шляху стварэння Канстытуцыі Еўрасаюза. Павінна існаваць нейтральная тэрыторыя, дзе дэмакратычныя краіны маглі б весці перамовы з дэспатычнымі рэжымамі, у тым ліку, каб змагацца супраць міжнароднага тэрарызму і мафіі.

Такім чынам, універсальная дэмакратыя (не універсальная дзяржава) – гэта рэалізуемая утопія, у той час, як тыранія не з'яўляецца непазбежным злом. Але ізаляцыя тыранічнага рэжыму не азначае, што насельніцтва гэтых краінаў павінна быць ізалявана ад астатняга свету. Дапамога насельніцтву гэтых краін будзе неабходная, і трэба будзе весці перамовы з аўтарытарнымі рэжымамі. Скараціць рызыку грамадзянскіх войнаў і зменшыць колькасць тыранічных рэжымаў у свеце – гэта ідэальная, высокародная і рэалізуемая мэта. Яе рэалізацыя азначала б пачатак значнага прагрэсу, які дазволіў бы ўзяцца за вырашэнне гістарычных задач, увасабленне якіх у жыццё затрымлівае тыранія. Гэтыя задачы ўключаюць ахову планеты і ўсталяванне міжнароднай сістэмы сацыяльнай справядлівасці. Гэта – прынцыпы адналькавай свабоды, роўнасці шанцаў і сапраўднай салідарнасці з абяздоленымі.

**Le Figaro**

# Ласы даўгабуд

Калі ўзвядзенне Палацу Рэспублікі было нарэшце скончанае, галоўным даўгабудам Мінска стаў праект рэканструкцыі былога кінатэатра «Беларусь» на Юбілейнай плошчы, які павінен быў ператварыцца ў Музей сучаснага мастацтва. Гэты музей мусіў адкрыцца ўжо сёлета, але як кажуць, там і конь не валяўся. А менчукі, што праходзяць праз Юбілейную плошчу, працягваюць дзівіцца, чаго гэты будынак і наогул гэтае месца такія закінутыя.

Яшчэ ў 1997 годзе выйшла адмысловая пастанова Савета Міністраў Беларусі аб перадачы будынка колішняга кінатэатра «Беларусь» з камунальнай гарадской уласнасці ў дзяржаўную, яго рэканструкцыі і пераездзе сюды Музея сучаснага мастацтва, які месціўся і месціцца дагэтуль у былым выстаўным комплексе «На ростанях». Дакладней, музею засталіся дзве выстаўныя залы ў будынку на праспекце Скарыны, 47. Планавалася, што ён будзе тут часова, але гэтае «часова» доўжыцца ўжо шэсць гадоў. На сённяшні дзень зроблены толькі архітэктурны праект рэканструкцыі пабудаванага ў 60-ых гадах мінулага стагоддзя кінатэатра «Беларусь».

Што ж уяўляе сабой гэты праект архітэктара Леаніда Маскалевіча? Па вялікім рахунку, ад кінатэатра нічога не застанецца. Яго не знясуць, ён проста схаваецца ў музеі.

Паводле словаў дырэктара Музея сучаснага мастацтва, вядомага беларускага мастака Васіля Шаранговіча, над двухпавярховай «Беларуссю» надбудуюць яшчэ адзін паверх, і наогул будынак на Юбілейнай плошчы раздасца ва ўсе бакі. Яго плошча павялічыцца з 1.800 квадратных метраў да 12.500. Гэта значыць, у 7 разоў. А ў параўнанні з цяперашнімі плошчамі, якія займае музей на праспекце Скарыны, гэта будзе болей у дзесяткі разоў.

У прынцыпе, гэта мусіць быць не проста музей, а цэлы выстаўны і культурна-асветны цэнтр, які будзе дзейнічаць па ідэі сінтэзу мастацтваў. Гэта значыць, тут павінны быць прадстаўленыя ўсе віды мастацтваў. У новым будынку Музея сучаснага мастацтва мяркуецца праводзіць самыя розныя культурніцкія акцыі – ад перформансаў і гранняў сімфанічнага аркестра да літаратурных вечарынаў. Карацей, музей будзе шматпрофільны.

Рэканструкцыя былога кінатэатра «Беларусь» прадугледжвае стварэнне вестыбюля-атрыума, які дасць візуальную звязанасць кампазіцыяў на ўсіх трох паверхах. Экспазіцыі мусяць быць не пастаяннымі, як гэта ёсць у музеях, дзе паказваецца гісторыя мастацтва, а, як кажа Шаранговіч, «пастаянна зменнымі» – на 3 гады, як таго вымагае спецыфіка музея менавіта сучаснага мастацтва.

Адной з асаблівасцяў, калі заўгодна, «разынкай» Музея сучаснага мастацтва на Юбілейнай плошчы стане размяшчэнне там вядомага «Габелена стагоддзя» мастака Аляксандра Кішчанкі. Для гэтага твора памерамі 14 на 19 метраў і вагой пад 300 кілаграмаў будзе зроблена адмысловая ніша на першым паверсе новага музейнага будынка. Варта згадаць, што сярод іншых партрэтаў на ім ёсць і выява першага прэзідэнта Беларусі.

Супрацоўнікі музея спадзяваліся, што менавіта дзякуючы таму, што яны збіраюцца паставіць у сябе гэты габелен, які займеў статус нацыянальнай гістарычнай каштоўнасці і нават трапіў у Кнігу рэкордаў Гінеса, фінансаванне рэканструкцыі кінатэатра «Беларусі» і прыстасаванне яго пад музей пойдзе як след.

Пярэбары Музея сучаснага мастацтва сюды павінны былі адбыцца сёлета. Але яшчэ не прыступалі нават да нулявога цыклу будаўнічых работ. Як сумна жартуе Васіль Шаранговіч, «усё ніжэй за нуль». Мастак кажа, што «куды толькі не грукаўся», вымагаючы фінансавання рэканструкцыі «Беларусі». Не выдзяляецца ні капейкі. Вось і некалькі месяцаў таму ён меў сустрэчы са старшынём Мінгарвыканкама Міхаілам Паўлавым, міністрам культуры Леанідам Гулякам, галоўным сталічным архітэктарам Аляксандрам Чадовічам. Усе паабяцалі, што справа зрушыцца. І цішыня. А трэба, дарэчы, 7 мільёнаў даляраў.

Між тым, гэты будынак у цэнтры Мінска багата каму падаецца ласым кавалкам. Васіль Шаранговіч згадвае, што некалькі гадоў на збудаванне на Юбілейнай плошчы было паклаў вока тады яшчэ БПСМ. А нядаўна на афіцыйным сайце Мінгарвыканкама з'явілася інфармацыя, што старшыня Цэнтральнага раёна сталіцы прапануе, паколькі з фінансаваннем праекта Леаніда Маскалевіча нявыкрутка, кінатэатр «Беларусь» альбо знесці, альбо прадаць.

Нягледзячы на існаванне адмысловай пастановы Савета міністраў наконт рэканструкцыі кінатэатра «Беларусь» і прыстасаванні яго пад музей, усё-такі нельга выключаць небяспекі, што хто-небудзь выгадна для сябе пралабіруе гэтае пытанне ва ўладных колах, і Музею сучаснага мастацтва могуць, напрыклад, прапанаваць пераехаць у іншае месца. Тады на праекце ператварэння кінатэатра ў музей давядзецца паставіць крыж.

Але Васіль Шаранговіч перакананы, што ён мусіць быць менавіта ў гэтым месцы – на Юбілейнай плошчы, у цэнтры горада і незаціснутым паміж іншымі будынінамі. Маўляў, у гэтым уся соль музея.

Вольна і ландшафтна-эстэтычна добраўпарадкаванае наваколле ёсць прыкметай многіх еўрапейскіх музеяў сучаснага мастацтва. Напрыклад, з музея плануецца зрабіць выхад на парк скульптураў, што раскінецца на прылеглай тэрыторыі.

Кірэй МАНУЙЛА






# «Цюркскі элемент» у беларускім пісьменстве

***4 верасня ў Беларускім дзяржаўным інстытуце праблем культуры пачне работу IX Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя «Цюркскія народы ў гісторыі Беларусі»***



У той жа дзень у Цэнтральнай навуковай бібліятэцы імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі адбудзецца прэзентацыя каталога «Рукапісы беларускіх татараў канца XVII – пачатку XX ст. з калекцыі Цэнтральнай навуковай бібліятэкі Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі».

Беларусь – поліэтнічная і поліканфесіянальная дзяржава, у якой разам з беларусамі жывуць прадстаўнікі больш за 100 нацыянальнасцяў, у тым ліку і прадстаўнікі цюркскіх народаў – беларускія татары. Нашчадкі выхадцаў з Залатой Арды і Крымскага ханства шэсць стагоддзяў жывуць на беларускай зямлі, уліліся ў нацыянальнае жыццё краіны, перайшлі на мясцовую мову, але дагэтуль захавалі мусульманскую веру і самабытную культуру.

Каштоўная частка культурнай спадчыны беларускіх татараў – іх літаратура на беларускай мове арабскім пісьмом. Рукапісы беларускіх татараў – шматмоўныя помнікі кніжнасці, якія цікавяць і арыенталістаў, і славістаў. Кнігі змяшчаюць спіскі з усходніх тэкстаў на арабскай і цюркскай мовах, іх пераклады на беларускую і польскую мовы, арыгінальныя тэксты на мясцовай гаворцы. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца калекцыя з 14 арабаграфічных рукапісаў беларускіх татараў канца XVII – пачатку XX ст. Супрацоўнікамі аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў бібліятэкі падрыхтавана навуковае апісанне кніг, складзены каталог калекцыі. 4 верасня ўдзельнікі IX Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, госці і чытачы бібліятэкі азнаёмяцца з гэтымі рарытэтамі.

**Кур'аны** прадстаўлены ў калекцыі ЦНБ НАН Беларусі чатырма асобнікамі. Для напісання свяшчэнных кніг выкарыстоўвалася асабліва якасная папера, папраўкі і падчысткі не дапускаліся, почырк павінен быў быць каліграфічным. Перад тым як ўзяцца за перапіску Кур'ана, мусульманін (перапісчыкамі былі вернікі з добрай рэпутацыяй) абавязкова маліўся. Чытаць Кур'ан вучыў спецыяльны падручнік тэджвід. У кнігазборы бібліятэкі 2 тэджвіды, змешчаныя ў адным асобніку. У кнізе даецца апісанне артыкуляцыі арабскіх гукаў, інтанацый, пауз, абавязковых пры чытанні Кур'ана. Асноўны тэкст напісаны на цюркскай мове, а падрадковы пераклад – на беларуска-польскай.

Пераклады Кур'ана на мясцовую мову беларускія татары называлі **тэфсірамі**. Хоць арабскае слова «тэфсір» звычайна азначае «каментарый», беларускія тэфсіры па сутнасці з'яўляюцца перакладамі Кур'ана з некаторымі элементамі каментару. Яны ўключаюць Кур'ан, напісаны на арабскай мове, у якім пад кожным гарызантальным радком арабскага тэксту наўскос запісаны пераклад на польскую і беларускую мовы. У Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі захоўваецца тэфсір 1686 года, які змяшчае старэйшую копію (з тых, што захаваліся і вядомы) перакладу Кур'ана на польскую мову. «Малодшы» тэфсір з кнігазбору бібліятэкі быў напісаны ў XIX ст. Вялікую каштоўнасць для этнографаў і філолагаў маюць **кітабы**, што па-арабску азначае «кнігі». Але беларускія татары называлі кітабамі не ўсе кнігі, а толькі тыя, якія апрача апісання рэлігійных абрадаў змяшчалі тэксты з біблейскімі сюжэтамі, рэлігійнай палемікай, апавяданнямі аб прароках, прадказанні і інш. У кнігазборы Цэнтральнай навуковай бібліятэкі захоўваецца кітаб невялікага фармату – паўкітаб XVIII ст. Асабліва папулярнымі ў беларускіх татараў былі маленькія малітоўнікі, так званыя **хамаілы** (арабскае слова хамаіл азначае «тое, што носіцца з сабой»): апрача малітваў у іх змяшчаліся апісанні абрадаў, календары, тлумачэнні сноў, спосабы лячэння розных хвароб і інш. У аддзеле рэдкіх кніг і рукапісаў захоўваецца 6 хамаілаў XIX–XX стст. Кожны рукапіс непаўторны, нават у кнігах аднолькавага зместу асаблівасці экземпляра і яго лёс вылучаюць кнігу сярод іншых. Прэзентацыя каталога і выстаўка ў ЦНБ НАН Беларусі прымеркаваны да канферэнцыі «Цюркскія народы ў гісторыі Беларусі».

У бібліятэцы плануецца таксама пасяджэнне «круглага стала» па выніках работы канферэнцыі, арганізатарамі якой выступілі ЦНБ НАН Беларусі, Цэнтр нацыянальных культур Міністэрства культуры РБ, Беларускае грамадскае аб'яднанне татараў «Зікр уль-Кітаб», Мусульманскае рэлігійнае аб'яднанне ў Рэспубліцы Беларусь.

Алена ЦІТАВЕЦ

# «Белавія» перасядае на «Боінг»

**З верасня кліенты нацыянальнай авіякампаніі «Белавія» змогуць лятаць у краіны Еўропы на «Боінгу». Першы самалёт гэтай маркі – «Боінг В737-500» – набыты ў лізінг.**



Падштурхнула «Белавію» да пакупкі «Боінгу» забарона на палёты ў еўрапейскія краіны самалётаў, якія перавышаюць па шумнасці пэўную дэцыбелаву мяжу. Такое рашэнне было прынята Міжнароднай арганізацыяй грамадзянскай авіяцыі (ІКАО) яшчэ ў 1990 годзе. Пачынаючы з гэтага часу было дакладна вядома, што рана ці позна гэтыя забароны пачнуць дзейнічаць. Момант «Х» надышоў у красавіку 2002 года. Хаця ў аэрапортах асобных краінаў абмежаванні палётаў беларускіх самалётаў практыкаваліся яшчэ раней. Напрыклад, у Франкфурце ўжо некалькі год нашым самалётам не дазвалялі на пасадку ў выходныя і святочныя дні.

У выніку «Белавія» аказалася зусім непадрыхтаванай да такога развіцця падзеяў, і рэйсы на некаторыя еўрапейскія краіны нават давялося адмяніць. У Лондан, Парыж, Франкфурт, Рым, Вену і Берлін дагэтульляталі ТУ-134 і ТУ-154Б, але яны патрапілі ў «чорны спіс» ІКАО. Дзе маглі – перасялі на малакамфартабельныя і менш выгадныя ЯК-40 і АН-24, на якія забарона ўвогуле не распаўсюджваецца, і на ТУ-154М – адзіны з «няшумных» самалётаў, які ёсць у беларускай авіякампаніі.

Каб кампенсаваць страты ад скарачэння палётаў на захад, «Белавія» пашырылася на ўсход. Замест Парыжу ці Берліну «шумныя» самалёты пачалі лятаць у Санкт-Пецярбург, Тбілісі і Астану. І сапраўды, нашто тэхніцы прастойваць: ТУ-154М у парку нацыянальнай авіякампаніі толькі чатыры адзінкі, а «шумных» ТУ-134А і ТУ-154Б – дзесяць і дзевяць адпаведна.

Накont прычынаў увядзення «самалётных» абмежаванняў усе чыноўнікі ад беларускай авіяцыі выказаліся аднaзначна – усё гэта выключна палітыка. Пасля тэракту ў ЗША 11 верасня 2001 года для многіх сусветных авіякампаніяў надышлі «чорныя дні»: попыт на іхнія паслугі значна ўпаў, вызвалілася вялікая колькасць самалётаў, якія сёння проста прастойваюць. У Еўропе шэраг авіякампаніяў нават збанкрutaваліся.

2006 год – яшчэ адзін важны пераломны момант для айчыннай авіяцыі. Чакаецца, што праз тры гады ІКАО зноў падвысіць патрабаванні па шуме для самалётаў. І тады ўжо нават ТУ-154М не зможа прызямліцца ў аэрапорце ніводнай дзяржавы Еўропы. З гэтага часу ўсе перавозкі мусяць ажыццяўляцца толькі на «Боінгах» ці «Эйрбасах» новага пакалення, якія пачалі выпускаць літаральна апошнімі гадамі. Ніводная з мадэляў расійскіх самалётаў, што зараз эксплуатуюцца, пасля ўвядзення чарговых абмежаванняў, не зможа задаволіць патрабаванні для палётаў у еўрапейскія краіны.

Каб праз тры гады зноў не наступіць на тыя ж граблі, «Белавія» пацiху пачала абнаўляць свой парк самалётаў. У траўні быў абвешчаны тэндэр на закупку «Боінга», і напрыканцы жніўня гэты самалет ужо будзе ў Мінску. Аднак, каб задаволіць увесь існуючы попыт у пасажырскіх перавозках у Еўропу, «Белавія» мусіць купіць яшчэ пару «Боінгаў». Першы з іх абышоўся авіякампаніі ў 23,2 мільёна доляраў, якія мусяць акупіцца гады праз тры.

Адмысловую перападрыхтоўку пад «Боінг» пяць лётных экіпажаў і 25 сцюардэс праходзілі ў Амстэрдаме, Празе і Кіеве. Беларускі «Боінг», разлічаны на 108 пасажыраў, будзе звязваць Мінск рэгулярнымі рэйсамі з Варшавай, Прагай, Берлінам, Парыжам, Франкфуртам-на-Майне і іншымі еўрапейскімі гарадамі, а таксама з Тэль-Авівам. Папярэдне сцвярджаецца, што перасадка пасажыраў з АН, ЯК і ТУ на «Боінг» ніякім чынам не адаб'ецца на кошце квіткоў на палёт у гэтыя гарады. Гэта значыць, што дарога ў Парыж і назад абыдзецца кліенту «Белавія» ў 328 даляраў без уліку дадатковых таксаў і збораў, у Прагу і дамоў – ад 305 даляраў, у Варшаву – 140, у Вену – 360, у Тэль-Авіў – 370, у Франкфурт – 294 даляры, а ў Берлін у абодва бакі – 260 даляраў.

**Інга ГРЫМОНТАВА**

# *Як гінулі Пампеі*

**Апошнія археалагічныя даследаванні Пампеі паказалі, што смерць бальшыні яе жыхароў у часе легендарнага вывяржэння Везувія ў 79 годзе н. э. была больш жахлівая, чым уяўлялася раней.**

Раскопкі Пампеі пачаліся яшчэ ў 18-ым стагоддзі. Археолагі знайшлі дамы, пакрытыя фрэскамі, каштоўнасці, рэчы штодзённага ўжытку. Былі зроблены падрабязныя апісанні, нават партрэты ахвяраў вывяржэння – па пустках, пакінутых целамі ў попеле і лаве. Здавалася, што нічога новага тут знайсці проста немагчыма. Але вучоныя з Неапалітанскага універсітэта і Пампейскага археалагічнага цэнтра знайшлі ў прыгарадзе Пампеі некранутую папярэднімі раскопкамі алею і здолелі па ёй аднавіць карціну вывяржэння і гібелі горада. Параўнаўшы тое, што яны знайшлі, з апісаннямі двух першых паверхаў дамоў на іншым баку алеі, якія знаходзіліся вышэй патока лавы, археолагі прыйшлі да высновы, што для тых, хто не паспеў уцячы з горада і не загінуў ад патокаў лавы ў першыя хвіліны, трагедыя мела два этапы.

У дамах, што стаялі ўздоўж алеі, былі знойдзены некалькі целаў, якія знаходзіліся вышэй узроўню застылай лавы. Гэта азначае, што ахвярам пашчасціла пазбегнуць смерці ў першы момант лававай атакі на горад за сценамі сваіх дамоў. Аднак шчасце было надта кароткае і здрадлівае, бо праз кароткі час попел пакрыў дамы і праламіў дахі. Людзі гінулі ад недахопу паветра ў поўнай свядомасці.

Экстрапалюючы свае высновы на ўвесь горад, вучоныя выказалі меркаванне, што ў часе лававай атакі на першым этапе загінулі каля 40 працэнтаў жыхароў Пампеі – галоўным чынам пад руінамі дамоў. Тыя, хто перажыў гэты жах і знайшоў сабе больш-менш надзейнае схованку ў дамах над патокамі лавы, задыхнуліся, калі горад накрыў слой попелу – палова ў дамах, палова – звонку.

**Кацярына ЕСЬМАН**



# Фортэпіяна Стэйнвэя

Вось ужо паўтара стагоддзя ў музычным свеце высока цэняць інструменты кампаніі «Steinway & Sons», якая зафіксавала прозвішча заснавальніка фірмы. Ім быў Генрых Энгельхард Штайнвег, малодшы з 12 дзяцей лесніка, які служыў у князёў Брауншвейгаў (цэнтральная Германія).

### Драмы дзяцінства

Дзіцячыя гады Генрыха прыйшліся на эпоху напалеонаўскіх войнаў. У 1806 годзе бацька Генрыха і старэйшыя браты ўступілі ў прускую армію, каб змагацца супраць нашэсця французаў. Але прускае войска пацярпела паражэнне, і бацька, і браты не вярнуліся з вайны, патрапіўшы ў палон.

Калі французы акупіравалі Вольфсхаген, Генрык з маці, сёстрамі і братамі, як і шчэ іхныя аднавяскоўцы, ратаваліся ад акупантаў у гарах. Ім давялося там жыць суровую зіму ў паспешліва збудаваных сховішчах. Маці Генрыха і шасцёра яго братоў і сясцёр не вытрывалі такіх умоваў і памерлі. Вясной дадому вярнуліся толькі Генрых са старэйшай сястрой. Неўзабаве сястра пашлюбавалася з салдатам і назаўжды пакінула вёску. Генрыху было 8 гадоў. Наўрад ці ён здолеў бы выжыць, але на шчасце вярнуўся з палону бацька і старэйшыя браты, і бацька аднавіўся на службе ў князя Брауншвейга.

У 1812 годзе Генрыху давялося перажыць яшчэ адну трагедыю. Бацька ўзяў сыноў на працу ў лесе. Раптам пачалася навальніца. Усе разам схаваліся ў хатцы лесніка, і менавіта ў яе ўдарыла маланка. Адзіны, хто застаўся жывы пасля гэтага ўдару, быў Генрых. Праз тры гады ён паступае ў полк, які Брауншвейгі сабралі для ўдзелу ў вайне супраць Напалеона. У бітве пры Ватэрлоа 18-гадовы юнак праявіў храбрасць і быў узнагароджаны медалём. Пасля вайны, каб набыць прафесію, Генрых паступіў вучнем да арганнага майстра, а ў вольны час вырабляў мандаліны і цытры.

### Піяна-фортэ для нявесты

У 1820 годзе Генрых пераехаў у горад Зезен, дзе адкрыў уласную мэблевую майстэрню, а пры выпадку займаўся і рамонтам арганаў. Тады ж ён паспрабаваў зрабіць інструмент, які называўся фартэпіяна (а часцей - піяна-фортэ) і які набываў папулярнасць у Англіі і кантынентальнай Еўропе. Сваёй суджанай Юльяне Таймер у якасці шлюбнага падарунка ён зрабіў невялікае фартэпіяна з двайнымі струнамі. У сям'і адразу пайшлі дзеці. З часам іх стала дзесяць. Усіх іх Генрых далучаў да свайго занятку – вытворчасці музычных інструментаў.

Свой першы раяль Генрых зрабіў у 1836 годзе на кухні свайго дома. Гэты інструмент захаваўся да сёння. Ён знаходзіцца ў музеі Метраполітэн у Нью-Ёрку. Генрых адразу пачаў выстаўляць свае інструменты на розных выставах, на ярмарках і часта атрымоўваў першыя прэміі. Яго першы раяль набыў герцаг Брауншвейгскі за 300 марак, што было вялізным сумай. Можна сказаць, што гэты факт акрэсліў палітыку высокіх цэнаў на інструменты фірмы.

Неўзабаве сям'я пабудавала сабе вялікі трохпавярховы дом з майстэрнямі пры ім. Гэты будынак і цяпер аздабляе Зезен.

### Эміграцыя ў Амерыку

Напрыканцы 1840-х гадоў, калі ўслед за Французскай рэвалюцыяй, хваля рэвалюцыйных выступленняў дакацілася да Германіі, попыт на музычныя інструменты значна паменшыўся, пачалася шырокая міграцыя з Германіі ў Амерыку. Штайнвегі вырашылі паслаць аднаго са старэйшых сыноў – Карла – «на разведку» ў Новы Свет.

Разведка прайшла з поспехам, і ў 1850 годзе Генрых, якому было 53 гады, разам з сям'ёй выправіўся цераз акіян. Яны спыніліся ў Нью-Ёрку і пачалі працаваць у розных фірмах, якія займаліся вытворчасцю музычных інструментаў.

Нарэшце Генрых вырашыў канчаткова інтэгравацца ў амерыканскае жыццё і ў сувязі з гэтым змяніць імя. Генрых Энгельхард Штайнвег стаў Генры Стэйнвэям.. Тое ж зрабілі яго сыны: Карл стаў Чарльзам, Вільгельм – Уільямам, а Генрых-малодшы – Генры-юніорам. Толькі адзін з сыноў – Тэадор – вярнуўся ў Германію і працягваў сямейную справу на радзіме.

У 1853 годзе Чарльз Стэйнвэй набыў невялікае памяшканне для майстэрні на Верык-стрыт у Нью-Ёрку. Менавіта з гэтага моманту вядзе сваю гісторыю самастойная дзейнасць фірмы ў ЗША.

Праз шэсць гадоў фірма прадавала ўжо 500 інструментаў у год. Гэта – значная колькасць і ў наш час. Заснавальнік дынастыі Генры Стэйнвэй памёр у 1871 годзе. Ён мог ганарыцца: інструменты з маркай фірмы мелі вялікі аўтарытэт, заказы на іх аслі штогадовы заказ складаў паважную лічбу – 1800.

**Фёдар БУЦКО**

**Сярод музычных інструментаў раялі маркі «Стэйнвэй» з'яўляюцца сапраўднымі каштоўнасцямі. Прыкладам, раяль, выраблены ў 1888 годзе, быў прададзены Тэатрам Марціна Бэка ў 1980 годзе на аўкцыёне Сотбі ў Нью-Ёрку за 390 тысяч даляраў.**

**Сучасныя мадыфікацыі раяля каштуюць ад 50 тысяч да 500 тысяч даляраў. Універсітэт Калгары, атрымаўшы ахвяраванне ад прыватнай асобы ў памеры 4,7 мільёнаў даляраў, набыў 90 раяляў «Стэйнвэй» коштам 52 тысячы даляраў кожны, што дае магчымасць стаць у адзін шэраг з лепшымі кансерваторыямі свету.**

Новы Час
Галоўны рэдактар
Алена АНІСІМ

Заснавальнік: Мінская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф.Скарыны.
Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1798 ад 25 сакавіка 2002.
Адрас: 220005, Мінск, вул. Румянцава, 13
E-mail: nchas@promedia.by

Рэдактар нумару Канстанцін Тарасаў
Камп'ютэрная вёрстка Андрэй Дзегцяроў

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая.
Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы.
Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.

Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка ў друкарні УП «Светач».
Ліцэнзія ЛП № 187 ад 09.01.2003 г.
220030, Мінск, вул. Першамайская, 7. Замова № 1587
Падпісана да друку 21.08.2003 (12:00).
Наклад 2 300 асобнікаў.
Газету можна атрымаць у сядзібе ТБМ па адрасе:
Мінск, вул. Румянцава, 13, тэл. 288-23-52, 284-85-11